PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (2145) Год XLII Беласток 22 чэрвеня 1997 г. Цана 1 зл.

## Настаўнікі хочуць мець сваю арганізацыю

7 чэрвеня г.г. у бельскай „тройцы" праходзіла канферэнцыя пад лозунгам „Пазаўрочныя формы заняткаў і іх методыка сярод беларускай меншасці". Мерапрыемства наладзілі Беларускі саюз у РП і Грамадскі камітэт па справах беларускага школьніцтва ў Польшчы. У канферэнцыі ўдзельнічала больш за сорак асоб — настаўнікі беларускай мовы, дырэктары некаторых школ і грамадскія дзеячы. Па невядомай прычыне не прысутнічала візітатар па беларускай мове Тамара Русачык і настаўнікі з бельскага белліцэя (за выключэннем сп. Анны Бжазоўскай). Прысутныя заслухалі даклады пра супольныя мерапрыемствы бацькоў і дзетак у беларуска-польскім прадшколлі н-р 14 у Беластоку (Барбара Пякарская), пра культуратворчую ролю мастацкіх Сустрэч „Зоркі" (Ганна Кандрацюк-Свярубская), пра тэматыку „нашых айчын" на прыкладзе краязнаўчага гуртка ў ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім (Дарафей Фіёнік) і ўрэшце пра сучасны стан беларускага школьніцтва, яго крызіс і магчымыя шляхі выхаду са складанага становішча (Славамір Іванюк).



*Удзельнікі настаўніцкай канферэнцыі.*

У канцы пасяджэння выступіў старшыня Грамадскай камісіі па справах рэформы беларускага школьніцтва ў Польшчы Васіль Ляшчынскі:

— Беларускае школьніцтва — безабароннае. Па праўдзе ніхто ў нас за яго не адказвае. Беларусам патрэбная структура, якая адстойвала б інтарэсы нацыянальнага школьніцтва. Такія арганізацыі маюць украінцы і немцы.

Грамадскі камітэт па справах рэформы беларускага школьніцтва займаецца распрацоўкай праграм навучання такіх прадметаў як беларуская мова (Тамара Русачык), геграфія для пачатковых школ (Юрка Баена), гісторыя для пачатковай і сярэдняй школ (Яўген Вапа), музыка і мастацтва (гэтыя пакуль не распрацаваныя).

— Справа ў тым, — сказаў В. Ляшчынскі, — што Міністэрства нацыянальнай адукацыі рыхтуецца да змены мадэлі польскай школы. І мы, маючы Беларускае асветнае таварыства, маглі б уключыцца ў рэформу так, каб у ёй знайшлі адлюстраванне пэўныя тэмы пра наш рэгіён, беларусаў Польшчы, іх культуру і традыцыі.

— Без такой структуры цяжка ратаваць справы школьніцтва іншым арганізацыям, — сказаў Яўген Вапа.

На думку старшыні Беларускага саюза, узнікненне Беларускага асветнага таварыства — гэта справа некалькіх месяцаў. Улічваючы зацікаўленне настаўнікаў, выглядае на тое, што неўзабаве ўзнікне чарговая беларуская арганізацыя.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

## Як немцы занялі Орлю

**22 чэрвеня 1941 г. пачалася нямецка-савецкая вайна. Праз Беласточчыну нямецкія дывізіі рушылі на ўсход. Савецкая лінія абароны перастала існаваць. У першых днях вайны Орля пераходзіла з рук саветаў да немцаў. Пра гэтыя трагічныя падзеі расказалі Марыя і Міхал ШЫМАНСКІЯ з Орлі.**

— У чэрвені 1941 года, адступаючы з Орлі, рускія застрэлілі шэсць бязвінных праваслаўных і аднаго старога яўрэя. На нейкі час чырвонаармейцы затрымаліся ў „Чорным лесе" каля Рудутаў. Адна савецкая машына з кулямётам вярнулася ў Орлю, спынілася на мосце, а салдаты сталі браць з ракі ваду. З другога боку, ад рынку, над'ехалі чатыры нямецкія матацыклы. Заўважыўшы рускіх тры матацыклы павярнулі назад, а адзін трапіў пад абстрэл. Адзін матацыкліст загінуў на месцы, другі быў ранены. Саветы пакінулі іх і пагналіся за немцамі ў Орлю. А ў нас, у бацькавай клуні, ляжала ўжо трое раненых чырвонаармейцаў. Бацька рашыўся ўзяць яшчэ гэтага акрываўленага немца. Баяўся, бо не ведаў, хто вернецца ў мястэчка: рускія ці немцы. Неўзабаве выклікалі мясцовага лекара Смульскага, які перавязаў раненых. Некалькі гадзін пазней прыехалі немцы і сталі высвятляць справу. Думалі, што нямецкіх салдат абстралялі партызаны. Ранены немец крычаў з клуні, каб нічога дрэннага нам не рабіць. Немцы кудысьці ад'ехалі, але праз гадзіну зноў прыехала пад дваццаць раз'юшаных салдат. Адзін афіцэр пачаў падпальваць дамы каля гэтага месца, дзе быў забіты немец. Праз акно ўкінуў ён гранату ў хату, што стаяла побач нашай кузні. З хлява выскачыла цяля і немец застрэліў яго. Потым прыбег на наш панадворак. Маці выйшла да яго з паднятымі ўверх рукамі, а ён пусціў кулямётную чаргу ёй пад ногі. Ранены немец ізноў стаў крычаць у абарону бацькоў. Тым часам з клуні выйшаў адзін ранены рускі і стаў прасіць немца: „Пан, возьми меня...", але немец выстраліў яму прама ў жывот. Той яшчэ прамовіў „спасите нас" і памёр. Раз'юшаныя немцы спалілі тры дамы і ад'ехалі. Свайго раненага забралі толькі на другі дзень раніцай.

У нашай клуні засталося яшчэ двое раненых салдат, але яны схаваліся за прыстаронак і немец іх не бачыў. Потым мой бацька і сусед Андрэй Мураўка вывезлі іх у шпіталь у Бельску. Гэтага забітага немца занеслі мы на насілках на могільнік і пахавалі ля ўвахода. Калі б не доктар Смульскі, які ведаў нямецкую мову і растлумачыў немцам ход сутычкі і пераканаў іх, што ў Орлі няма партызан, немцы спалілі б цэлую Орлю.

— Было так, што калі немцы былі ўжо з танкамі ў Орлі, то рускія, якія былі яшчэ ў „Чорным лесе", паслалі ў разведку салдат з дзесяць. Дайшлі яны да моста перад Орляй, а там было такое нашае сховішча, куды залез немец. Махнуў ён рукою, каб яны падышлі бліжэй. Калі саветы сталі набліжацца, раздалася кулямётная чарга. Некалькі салдат забілі, рэшта ўцякла і хавалася каля яўрэйскай бажніцы.

— З Кашалёў у Орлю ішлі два савецкія салдаты з белай кашуляй на жэрдцы і хацелі здацца немцам. Але тыя толькі пад'ехалі на матацыкле да моста і сталі страляць па іх. Адзін салдат быў забіты і ўпаў у раку. Ляжаў там доўга. Арляне потым выцягнулі труп з ракі і пахавалі на могілках. Другі бацец быў цяжка ранены. Заняўся ім доктар Смульскі і адаслаў яго ў шпіталь у Бельску.

— Пад „Чорным лесам" хлопцы пасвілі коней. Немцы пад'ехалі да іх і сталі правяраць, ці няма сярод іх каротка астрыжаных юнакоў. Відаць, шукалі партызан або салдат. Не знайшоўшы нікога падазронага, забралі ў іх дзесятак найлепшых коней.

— Немцы палонных не бралі, а толькі рабавалі самае найлепшае і пёрлі на Усход. У нашым доме, дзе мы і цяпер жывем, навонкі ў дылях да сёння знаходзяцца асколкі з часоў II сусветнай вайны.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**
*Фота з архіва*

PS. Міхал Шыманскі памёр нядаўна пасля працяглай хваробы.



# Мы прачыталі

*Nikt tak nie poprawi zdrowia społeczeństwa jak senacka debata na ten temat. Był to wyjątkowy festiwal pobożnych intencji i pustych frazesów. Marszałek Struzik po zakończonym cyklu zagranicznych wojaży sposobi się do nowych wyborów, więc zwołuje szumnie debatę senacką, poświęconą zdrowiu narodu. W lożach zasiedli zaproszeni przez marszałka rektorzy akademii medycznych, dyrektorzy instytutów badawczych i inni naukowcy-lekarze. Nie zabrakło ministra zdrowia, któremu zależy również na rychłym rozpoczęciu kampanii wyborczej. Cała debata w ustach krasomówczych senatorów była: „pogłębiona", „doniosła", „szlachetna". Temat zdrowia społeczeństwa jest na tyle ważny, że już sam uśmiech i wyniosłe słowa marszałka i ministra mogą chorego postawić na nogi. Marszałek Struzik przekonywał, że stan zdrowia społeczeństwa ostatnio znacznie się poprawił, minister Żochowski że jest dobry. Tymczasem umieramy bez debaty. Połowa mężczyzn umiera między 35 a 65 rokiem życia, wzrasta liczba wypadków przy pracy, a w ostatnich sześciu latach o 16 proc. wzrosła liczba chorych psychicznie, co dziesiąty obywatel jest niepełnosprawny. Większość oszczędza na higienie i zdrowiu, a to z kolei poszerza zakres rozprzestrzeniania się różnych chorób...*

*Polityka, nr 22*

* * *

*Obecnie największą zmorą wojskowych jest pijaństwo rekrutów. Żołnierze większości jednostek mogą bez problemów przemycić alkohol do koszar. Po zakończeniu służby, kiedy większość kadry idzie do domu, praktycznie nikt nie ma kontroli nad tym co się dzieje na terenie jednostki. Żołnierze piją przede wszystkim z nudów. Część poborowych twierdzi, że prawdziwe wojsko zaczyna się dopiero po godz. 22. Dzień można spokojnie przeżyć, ale po zmroku władzę przejmują „dziadkowie".*

*Innym trudnym do wyplenienia zjawiskiem w wojsku są kradzieże. Starsi żołnierze kradną młodszym rocznikom wszystko co się da. Potem sprzedają to często samym poszkodowanym, aby mieć pieniądze na papierosy i alkohol. Dochodzi wręcz do mafijnych praktyk, kiedy to poborowi płacą co miesiąc haracz, aby nie być nękanymi przez innych żołnierzy.*

*Gazeta Współczesna, nr 103*

* * *

*Лукашэнкаўская тэорыя аб саюзе „славянскіх дзяржаў" вельмі нагадвае гітлераўскую тэорыю арыйскай расы і што Лукашэнку для задавальнення ягоных амбіцыяў патрэбная на пачатку Вялікая Расія з яе патэнцыялам, як у свой час аўстрыйцу на находжанні Гітлеру была патрэбная вялікая Германія а далей і ўся Еўропа. Як для любога дыктатара, для Лукашэнкі канструктыўную дзейнасць замяняе барацьба і пошук ворагаў, — сказаў Сямён Шарэцкі, былы старшыня Вярхоўнага Савета РБ.*

*Свабода, н-р 52*

* * *

*Я баюся канкурэнцыі з боку Аляксандра Лукашэнкі на наступных выбарах прэзідэнта Расіі.* — сказаў былы сакратар Савета бяспекі Расіі Аляксандр Лебедзь.

*Свабода, н-р 54*

Аляксандр Рыгоравіч рыхтуецца на Крэмль зусім сур'ёзна, калі пра гэта пачалі гаварыць яго патэнцыяльныя канкурэнты.

* * *

*Polityka to jest większy kryminał niż normalny kryminał,* — сказаў былы міністр у канцылярыі прэзідэнта Валэнсы Лех Фаляндыш.

*Kurier Poranny, nr 126*

* * *

*У Беларусі два гербы, два сцягі, два парламенты, дзве канстытуцыі.*

*Беларускі Дайджэст, н-р 6*

Усё паказвае, што таксама два народы — беларускі і савецкі. А Лукашэнку так і не ўдалося нікога і нічога аб'яднаць, а наадварот — раз'яднаў усіх і ўсё.

* * *

*Дагавор аб Саюзе Расіі і Беларусі, як вынікае з падпісанага дакумента, прадбачвае супольную абарону межаў Саюза, і тым самым закладзена там рызыка, што беларускім салдатам прыйдзецца ваяваць напрыклад у Таджыкістане.*

*Голас Радзімы, н-р 22*

Прыйдзецца яшчэ раз ставіць у Менску помнікі „воинам интернационалистам".

* * *

*Przedtem byliśmy niewolnikami Wschodu, a teraz — Zachodu. Przedtem rządziła Moskwa, teraz Waszyngton.*

*Gazeta Wyborcza, nr 129*

Нават у найбольшым балагане нейкі парадак павінен быць.

* * *

*W dzisiejszym świecie dotrzymanie wierności małżeńskiej należy do rzadkości, za normę uważa się to, co nieosiągalne. Seksuolodzy są zdania, że genetycznie i biologicznie człowiek nie został „zaprogramowany" jako istota monogamiczna. Naturze chodzi o wymieszanie genów, o jak największą różnorodność. Z punktu widzenia natury lepiej, by kobieta każde z trójki swoich dzieci miała z kim innym. Ciągle szukamy zmian w życiu seksualnym. A to, co się działo na dworach magnackich w XVII i XVIII wieku i było uważane za normę może być tylko marzeniem każdego rozpustnika. O starożytności nie warto nawet wspominać. Natura ludzka jest dość niezmienna.*

*Kurier Poranny, nr 129*

# З мінулага тыдня

**Маскоўская патрыярхія** пацвердзіла, што вядзецца інтэнсіўная падрыхтоўка да гістарычнай сустрэчы папы **Яна Паўла II** з патрыярхам Масквы і ўсяе Русі **Алексіем II**. Неафіцыйная сустрэча, якая намячалася на 21 чэрвеня ў Вене, адбудзецца ў іншым тэрміне. Адносіны паміж Рымска-каталіцкім касцёлам і Праваслаўнай царквою апошнім часам значна палепшыліся, дзякуючы рабочым сустрэчам дэлегацый абедзвюх цэркваў у італьянскім горадзе Бары.

**Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг** неўзабаве сустрэнецца ў Варшаве з прэзідэнтам **Аляксандрам Кваснеўскім**, — заявіў у Менску прэс-сакратар беларускага ўрада **Сяргей Маліноўскі**. Першая сустрэча абодвух палітыкаў адбылася ў канцы мая падчас візіту беларускай дэлегацыі ў Бельгію і Галандыю, дзе адзначалася 50 гадавіна плана Маршала.

**У Аўгуставе** прайшла міжнародная ўстаноўчая канферэнцыя па падпісанню пагаднення аб стварэнні Еўрарэгіёна „Нёман". У ёй удзельнічалі прадстаўнікі органаў кіравання Сувальскага ваяводства, Мар'ямпольскага і Алітускага паветаў Літвы і Калінінградскай вобласці Расіі, а таксама работнікі Савета Міністраў ды міністэрстваў замежных спраў і знешнеэканамічных сувязей ды Гродзенскай вобласці Беларусі. Старшыня Таварыства еўрапейскіх прыгранічных еўрарэгіёнаў **Віктар фон Малькус** адзначыў, што „Нёман" з'яўляецца 150 еўрарэгіёнам у Еўропе.

**Сялянская партыя ПСЛ** вызначыла сваіх кандыдатаў на парламентарыяў з Беластоцкага ваяводства. Спісак з чатырнаццаці кандыдатаў адкрывае міністр па справах ветэранаў **Адам Дабраньскі**. У ліку прэтэндэнтаў на паслоў Сейма апынуліся таксама дзеячы з Гайнаўкі — **Вольга Рыгаровіч** і **Мікалай Яноўскі**.

**У Бельску-Падляшскім** адбыўся сімпозіум на тэму „Экалагічныя абумоўленасці культурных перамен у прагісторыі і сярэдневякоўі ды ахова археалагічных помнікаў у натуральным асяроддзі". Арганізатарам сімпозіума, які праходзіў у мясцовым музеі, выступіў Інстытут археалогіі і этнаграфіі Польскай акадэміі навук, Генеральны рэстаўратар помнікаў і лакальныя адміністрацыйныя ўлады.

**Пагранічныя пераходы** на польска-беларускай мяжы ў Баброўніках і Кузніцы-Беластоцкай кантраляваліся сенацкай камісіяй замежных спраў. У выніку паездкі парламентарыі пераканаліся, што на ўсходняй граніцы неабходна мадэрнізаваць старыя і адкрываць новыя пагранпераходы. Старшыня камісіі **Генрык Макарэвіч** захапіўся сучаснасцю перахода ў Баброўніках і пацвердзіў неабходнасць знайсці грошы на разбудову дарогі з Беластока ў Баброўнікі (мадэрнізацыя мае пачацца ў будучым годзе, а 48 км дарогі шырынёю ў сем метраў будзе каштаваць 64 млн. зл.). Беластоцкі ваявода **Анджэй Гаеўскі** паведаміў таксама, што прынята ўжо рашэнне аб пабудове новага перахода ў Харасцянах на граніцы з Беларуссю.

**У Нараўцы** адбылася двухдзённая сесія „Народная музыка Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Беласточчына", арганізаваная Фондам „Музыка крэсаў". Апрача сустрэч навукоўцаў з Польшчы, Беларусі, Расеі і Украіны адбыліся канцэрты народных калектываў.

**У Тарнопалі** на Семяноўскім вадасховішчы паўстане водная турысцкая база, якая дапаможа палепшыць стан бяспекі адпачываючых тут людзей. Пакуль за акіянам у гэтым сезоне будзе наглядаць 10 ратаўнікоў, асабліва на пляжах у Рудні і каля гасцініцы ў Бандарах.

# Вesткі з Беларусі

### Беларусь і СГА

У Жэневе ўрадавая дэлегацыя Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам прыняла ўдзел у першым пасяджэнні рабочай групы па далучэнні Беларусі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі. У час адкрыцця пасяджэння было адзначана, што Беларусь многа зрабіла, каб стаць членам гэтай аўтарытэтнай арганізацыі. Прэм'ер Лінг у сваю чаргу расказаў у асноўным аб прыярытэтах дзейнасці ўрада і аб галоўных накірунках рэфармавання беларускай эканомікі.

### Парадкаванне граніцы

Беларускі ўрад прыняў рашэнне выдзеліць 18,5 млрд. рублёў на дэмаркацыю і інжынернае ўпарадкаванне дзяржаўнай граніцы з Літвою. Доля гэтых сродкаў пойдзе на забеспячэнне дзейнасці беларускай часткі змешанай дэмаркацыйнай камісіі.

### Плённае супрацоўніцтва

Магчыма пасля прыходу да ўлады новага англійскага ўрада прыток брытанскіх інвестыцый у Беларусь стане больш адчувальны, — заявіла пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс у час паездкі на Гомельшчыну. Яна з задавальненнем адзначыла, што ў гомельскім рэгіёне ёсць усе ўмовы для развіцця пленнага супрацоўніцтва з прадпрымальнікамі яе краіны, а паказальным у гэтым плане з'яўляецца Агенцтва рэгіянальнага развіцця, створанае ў Гомельскай вобласці з дапамогай брытанскіх спецыялістаў. Агенцтва паспяхова ажыццяўляе праекты мінімалізацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі.

### Беларуска-чэшскі абмен

У горадзе над Бугам пабывалі прадстаўнікі свабоднай мытнай зоны Астрава з Чэхіі, якія сустрэліся з адміністрацыяй свабоднай эканамічнай зоны Брэст. У выніку перамоў падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве, у прыватнасці прадугледжваецца ўзаемны абмен інфармацыяй.

### Вяртанне на радзіму

77 гадоў прайшло з той пары, як Марк Шагал пакінуў родны Віцебск. Таму выстава твораў, што адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі — гэта не толькі буйная культурная з'ява, але і аднаўленне гістарычнай праўды, вяртанне вялікага майстра на радзіму. У экспазіцыі — дванаццаць акварэляў са збору ўнукаў мастака і пяцьдзесят дзевяць літаграфій з калекцыі музея Шагала ў Ніцы. Да 29 чэрвеня выстава працаваць будзе ў Менску, а затым пераедзе ў Віцебск, дзе 6 ліпеня пачнецца Міжнародны шагалаўскі фестываль. У Беларусі няма ніводнай карціны вядомага віцябляніна. Адзінай памяткай па мастаку з'яўляецца маленькі домік пры Пакроўскай вуліцы, у якім ён жыў.

### Платныя падручнікі

Згодна з пастановай урада, з 1 верасня 1997 года будзе брацца плата за карыстанне падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі. Намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян адзначыў, што пастанова ініцыіравана Міністэрствам адукацыі, бо бюджэтных сродкаў на выданне навучальнай літаратуры па школьнай праграме хранічна не хапае. Віцэ-міністр падкрэсліў, што бацькі будуць выплачваць толькі 25% кошту камплекта падручнікаў. Для першакласнікаў, напрыклад, гэта прыблізна 130 тысяч рублёў, а для адзінаццацікласнікаў — каля 290 тысяч рублёў.

### Новы тэрмінал

Беларусі патрэбны новыя сховішчы для блакітнага паліва, — да такога вываду дайшлі спецыялісты. Паводле іх прагнозаў спажыванне газу да 2010 года павялічыцца амаль удвая і дасягне 28 млн. тон умоўнага паліва. У рэспубліцы дзейнічае толькі адзін накапляльнік — Асіповіцкае газасховішча на 310 млн. кубаметраў. Нядаўна пачалося будаўніцтва Прыбугскага тэрмінала, які выручыць накапляльнік у выпадку аварыі на трубаправодах і дасць магчымасць рэгуляваць сезоннае нераўнамернае спажыванне і падачу газу з Расеі.

### Помнік на рэйках

Цудам быў прадухілены наезд хуткага поезда Масква—Варшава на нечаканую перашкоду. Ёю аказаўся магільны помнік, пастаўлены паміж рэйкамі ля станцыі Орша. Як высветлілася, зацягнуць яго на чыгуначнае палатно не паленаваліся два малайцы, аднаму з якіх семнаццаць гадоў, а другому — дваццаць адзін.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Лаўрэаты II Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы — узнагароджаныя.
- Беларуска-польскі літаратурны семінар *Бязмежжа '97*.
- Віктар Швед у Рыме.

**— Мы хочам, каб нашы дзеці выраслі на паўнацэнных людзей, — сказала Барбара Пякарская, адна з ініцыятарак заснавання ў Беластоку польска-беларускага дзіцячага садка.**

# Дайшлі да вяселля

У нядзелю 8 чэрвеня ў святліцы прыхадскога дома каля новабудаванай Уваскрэсенскай царквы ў Беластоку са спектаклем „Вяселле" выступілі дзеткі з Дзіцячага садка н-р 14. У гэтым садку ўжо два гады працуюць два аддзелы, у якіх навучацца беларуская мова. Дзеці пры дапамозе песень і гульняў пазнаюць элементы беларускай культуры.

Пра іх публічныя выступленні „Ніва" паведамляла не раз. Гэта былі і „Калядоўшчыкі", і „Юр'еў карагод" і „Паненскі вечар". А цяпер, вось, дайшлі да „Вяселля". Як заўсёды, маладым акцёрам на сцэне дапамагалі бацькі, якія моцна заангажаваныя ў жыццё прадшколля.

— Мы хочам, каб нашы дзеці выраслі на паўнацэнных людзей, — сказала Барбара Пякарская, адна з ініцыятарак заснавання ў Беластоку польска-беларускага дзіцячага садка. — На нашу думку, гэта можа быць толькі тады, калі яны пазнаюць сваю родную традыцыю, сваю культуру. Ведаючы свае карані, яны сумеюць ушанаваць іншых, усякую адметнасць, з якою давядзецца ім сустракацца ў жыцці.

Артысты, так маленькія, як і большыя з ролямі справіліся выдатна, што для пастаянных гледачоў не было неспадзяванкай. Але ў прыхадской святліцы было многа новай публікі, якая такі тэатр бачыла першы раз. Можа хто з прыхаджан, пагледзеўшы выступленне, паважыцца скіраваць сваё дзіця ў польска-беларускае прадшколле?

Як відаць, гэтых дзетак ніхто не паказвае пальцамі, як нейкіх дзівакоў. Наадварот, набылі яны ўжо ведамасць ў сродках масавай інфармацыі і — бадай не памыляюся — вялікую сімпатыю жыхароў горада.

Узрушаны ігрой дашкольнікаў, іх песнямі і танцамі, настаяцель Уваскрэсенскага прыхода айцец Уладзімір Цыбулінскі падкрэсліваў вартасць такога тыпу адукацыі. І частаваў дзетак шакаладам.

**М. В.**



*„Вяселле" — пастаноўка беларускага прадшколля ў Беластоку. На здымку Волечка Максімюк (маладая) і Міхась Хмялеўскі (малады).* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Добры час для Бельска

Нарэшце, пасля двух гадоў абяцанняў, у Гарадской управе Бельска знайшліся сродкі на ўзнагароды людзям, якія працуюць у галіне культуры і якія сваёй творчасцю прыносяць гонар гораду. Патрэбу такога жэста бачыў бурмістр Андрэй Сцепанюк і падчас мінулагодніх Дзён Бельска, і два гады таму, аднак, з-за недахопаў у касе абыходзіўся толькі падзякай і выказваў спадзяванні на лепшы час. Настаў ён, як відаць, ужо сёлета.

На сустрэчы з дзеячамі культуры ў старой ратушы, 4 чэрвеня, бурмістр узнагародзіў, між іншым, Надзею Артымовіч, чые вершы з'яўляюцца дасканалым сінтэзам канкрэтных мясцовых вобразаў з агульначалавечым. Кожны горад ганарыўся б такой паэткай. А тым часам, у Бельску прысутнасці Надзеі Артымовіч бышцам бы і не заўважалі. Гэта быў першы раз, калі запрасілі яе на афіцыйную ўрачыстасць з удзелам тутэйшага эстаблішменту.

За карпатлівую працу для развіцця культуры ў горадзе бурмістр узнагародзіў усіх працаўнікоў Бельскага дома культуры. Гэтая ўстанова, на чале з дырэктарам Сяргеем Лукашуком, дае дах і месца для большасці гарадскіх мастацкіх калектываў, арганізуе ўсе больш істотныя культурныя мерапрыемствы, у тым ліку і манументальныя, звыштыднёвыя Дні Бельска (праходзілі ад 31 мая да 8 чэрвеня).

З нагоды свята горада, адзнакі „Заслужаны дзеяч культуры" некаторым бяльшчанам прысвоіў нават міністр культуры Польшчы. Атрымалі іх таксама члены беларускіх калектываў: Святлана Кобус, Аліна Шумялюк, Юрка Харкевіч з „Маланкі" ды Ірэна Астапчук з „Васілёчкаў".

У час сустрэчы было шмат цёплых слоў, падзяк, кветак. Супала яна з адкрыццём выставы Алега Кабзара „Мой родны горад маленькі, маленькі як кропля дажджу" (з верша Надзеі Артымовіч). Алег Кабзар родам з Гомеля, скончыў менскую Акадэмію мастацтваў Беларусі, а жыццёвы лёс кінуў яго ў наш падляшскі горад. *Хаджу я вузкімі вулкамі, гляджу на старыя будынкі, якіх усё менш,* — прызнаецца мастак, — *і ўсё тут здаецца мне нейкае знаёмае, як быццам я ўжо гэтае бачыў у дзяцінстве.* Вось такі вобраз Бельска, цёплы і крыху настальгічны, можна паглядзець на гэтай выставе ў ратушы.

У рамках дзён Бельска былі арганізаваны яшчэ і іншыя выставы: малюнкаў дзяцей, фатаграфіі, „Гісторыя герба горада" ў гарадской бібліятэцы. Многа было самых розных канцэртаў, спартыўных спаборніцтваў на гарадскім стадыёне, гульняў, конкурсаў. Як заўсёды на такіх святкаваннях, найлепш гуляла моладзь. Яшчэ цяпер можна любавацца размаляванай у розныя колеры сцяной пякарні (каля Свята-Міхайлаўскай царквы, насупраць Ліцэя Тарашкевіча і „тройкі").

Шкада толькі, што не ўсе імпрэзы прайшлі так, як былі запланаваныя. Правядзенню некаторых канцэртаў у парку памяшаў дождж, які пачаў ліць ў нядзелю (1 чэрвеня) і суцішыўся толькі ў сераду. Я, асабіста, шкадую, што не змагла выступіць на пляцоўцы пад адкрытым небам, перад большай публікай „Вэрховына" з Варшавы, якая спявае аўтэнтычны ўкраінскі фальклор. Пасля іх канцэрта ў Бельскім доме культуры мая жонка заўважыла: *Калі праўда, што так спяваюць палякі, то нам павінна зрабіцца сорамна.*

**Мікола Ваўранюк**

# Сялянская радасная доля

Нядаўна ў польскай прэсе шмат пісалася пра сацыяльную сітуацыю паасобных грамадскіх груп і высновы ўсіх аналіз былі падобныя: найлепей жывецца людзям у вялікіх гарадах, а найгорш — у вёсках. Даследчыкамі разглядаліся не толькі чысты прыбытак грамадзян у кожным асяроддзі, але таксама і тое, якім коштам чалавечай працы быў ён выпрацаваны. Аказваецца, каб зарабіць залатоўку, селянін у Беластоцкім ваяводстве вымушаны ў тры разы даўжэй працаваць чым рабочы на фабрыцы. Пра разыходжанні ў галіне эфектыўнасці працы, у параўнанні з больш элітарнымі прафесіямі, не варта нават успамінаць, каб непатрэбна не хвалявацьжыхароў вёсак ці мястэчак. Трэба аднак адзначыць, што ва ўсходняй частцы ваяводства, дзе механізацыя, гаспадарчая інфраструктура, узровень перапрацоўкі сыравіны ёсць намнога ніжэйшы чым у заходняй, кошт працы вяскоўцаў яшчэ таннейшы. Таму, каб неяк жыць і мець магчымасць дапамагчы дзецям уладкавацца, дзень працы селяніна трывае і трывае надалей не восем гадзін у дзень, а найчасцей васемнаццаць. Калі б яшчэ ўлічыць у гэту статыстыку справу выхадных дзён, якіх жыхары вёскі звычайна не маюць, атрымаем вобраз вясковай рэчаіснасці на фоне гарадской. Але калі б сёння добра было жыць на вёсцы — як некаторыя гавораць — не было б там столькі адзінокага пражываючых і працуючых мужчын. Маці дзяўчат, ведаючы лёс вясковых жанчын, пасылаюць сваіх дачок у горад, спадзеючыся там на нейкі ім шанц на будучыню.

Кожны малады чалавек, калі толькі паедзе вучыцца ў сярэднюю школу ў Беласток ці іншы горад, пасля некалькіх месяцаў можа параўнаць умовы жыцця жыхароў вёскі і горада.

Адна мая знаёмая з вёскі Подваркі памерла з прычыны анеміі. Хаця разам з мужам кармілі 12 свіней, а на лугах пасвілася 15 кароў, дома, як гаварылі дзеці і сваякі нябожчыцы, не было нічога апрача хлеба і пажоўклага сала. Нават калі жыхары вёскі маюць тоны мяса ў хлявах, не маюць часу падрыхтаваць яго сабе ў выглядзе харчовых прадуктаў ці стаць спажыўцамі ў такіх камфартабельных умовах, якія маюць мяшчане.

Некаторыя звяртаюць увагу, што ёсць сёння таксама і багатыя сяляне, якія маюць трактары, усялякія машыны, механізацыю ў хлявах, прыгожыя дамы і жывуць як у горадзе. Безумоўна, гэта праўда, толькі якім коштам працы ўзнікла гэтае багацце. Рабочаму, які пачынаў працу на фабрыцы, усе машыны ды прылады былі дадзены ў рукі. Прытым большасць сацыялістычных прадпрыемстваў была пабудавана за кошт сялянскіх падаткаў. Селянін сам выпрацоўваў і ствараў усю інфраструктуру для гаспадарчай дзейнасці. Калі ў горадзе нехта пабудаваў прыватную фабрыку і купіў машыны, тады найчасцей сам там не працаваў, а адкрываў толькі чарговыя банкаўскія рахункі, дзецям купляў аўтамабілі, якіх вартасць перавышае цану некалькіх гаспадарак у Міхалоўскай ці Заблудаўскай гмінах. Селянін тым часам, нават калі пабудаваў фабрыку гадоўлі гусей, курэй ці свіней, працуе там сам са сваёй сям'ёй і не заўсёды ўдаецца яму атрымаць належны прыбытак. Выключэннем з'яўляюцца ўсялякія камбінатары, якія, незалежна ў якім асяроддзі прабываюць, заўсёды жывуць за кошт грамадства. Чым вышэй такі злодзей знаходзіцца, тым больш кошт яго абслугоўвання з грамадскага бюджэту.

Неўзабаве пачнецца выбарчая кампанія і ўсялякія „прыхільнікі" сялян выпаўзуць са сваіх кабінетаў на правінцыю „змагацца за іх інтарэсы". Некаторыя з іх нават не патрапяць адрозніць жыта ад ячменю, але так умела будуць гаварыць пра праблемы вяскоўцаў, што не адзін солтыс запытае адкуль яны гэта ведаюць. Праўда аднак заўсёды такая самая: „Ніхто табе не дапаможа, калі сам сабе не дапаможаш". Таму найлепшыя заўсёды бывалі тыя палітыкі, якія не перашкаджалі працаваць і думаць самастойна. Падаткі лепш ужо плаціць на тых, якія нічога не робяць, чым на тых, якія неразумным заканадаўствам ствараюць невыносныя ўмовы жыцця для грамадства. Хто, напрыклад, прыдумаў падаткі для сялян-пенсіянераў ад пустых гаспадарчых будынкаў. З драўлянымі справа простая, можна разабраць і спаліць у печцы. Але калі нехта пабудаваў сабе калісьці мураваную пуню і не хоча плаціць нейкіх шалёных падаткаў, вымушаны цяпер прасіць дапамогі ў сапёраў. Ёсць яшчэ адзін выхад: набыць нанава кавалак свае гаспадаркі і пачаць нейкую фіктыўную гаспадарчую дзейнасць, што большасць пенсіянераў і зрабіла. Але навошта ўсё гэта?

**Яўген Міранович**

# Што дае дэмакратыя

Наша рэдакцыя атрымала ад Фонду эканамічнай адукацыі з Варшавы запрашэнне да ўдзелу ў рабочай сустрэчы (spotkanie warsztatowe), прысвечанай праграме PHARE-Demokracja, фінансаванай Еўрасаюзам. Цяжкі гонар прадстаўляць тамака нашу рэдакцыю выпаў мне. Сам фонд паўстаў па ініцыятыве прафесара Лешка Бальцаровіча, а яго мэту заключае ў сабе назва таго фонда.

Апрача мяне на сустрэчы прысутнічала яшчэ восем асобаў, якія прадстаўлялі розныя польскія фонды, частка дзейнасці якіх была накіравана на Усход, і дзве навуковыя супрацоўніцы Універсітэта ў Эсекс (Англія).

І вось гэтыя адборныя сілы заняліся пытаннем, чым з'яўляецца дэмакратыя ў Польшчы і куды накіроўваць яе далейшы шлях. Большасці дэталяў гэтага разгляду не буду апісваць, каб не мучыць чытачоў, так, як намучыўся там я. Скажу толькі коратка, што намнога прыемней і больш дэталёва ён праходзіць у амаль кожным нашым застоллі. Тут прывяду толькі тыя высновы, якія за сяброўскім сталом не паяўляюцца, бо з'яўляюцца вынікам назірання з'яў у больш шырокім свеце.

Большасць прысутных практыкавалася ўжо ў навучанні дэмакратыі „знізу". Важнай там праблемай з'яўляецца ўлада бюракратыі, якая добра арыентуецца ва ўсіх закавулках законаў. Спробы выйсці з гэтага пайшлі ў зусім адваротным напрамку, бо бюракраты самі дарваліся да гэтай адукацыі, і, карыстаючыся сацыятэхнікай, яшчэ лепей замацавалі свае ўмельства. А просты чалавек, які пры камуне мог яшчэ шукаць нейкай дапамогі, цяпер стаў ужо і зусім бездапаможным; гэтая, добра нам вядомая, ісціна здзівіла нямала варшаўскіх тэарэтыкаў дэмакратыі. Большасць людзей штораз менш разумее акружаючую рэчаіснасць, затое тым, якія ўмеюць пакарыстацца гэтай сітуацыяй, адкрываюцца шырокія магчымасці. Рост грамадскай актыўнасці і паяўленне недзяржаўных арганізацый (NGO — Non Government Organization) вызначаюць станоўчы бок дэмакратыі. Асабліва важную ролю набывае незалежная мясцовая прэса, якая можа раскрываць неэтычныя паводзіны бюракратычнага апарату. Хаця яна ў большасці яшчэ залежыць ад мясцовага самакіравання і можа быць пад націскам мясцовых царыкаў і да таго ж яшчэ часта паўтарае тое, што пішуць цэнтральныя газеты, аднак у Польшчы паяўляюцца ўжо і зусім незалежныя выданні, якія прысвечаны падзеям толькі ў сваёй мясцовасці і карыстаюцца там вялікім зацікаўленнем.

Была звернута таксама ўвага на разрыў ва ўспрыманні новай рэчаіснасці паміж Варшавай і, нават найбліжэйшай, глыбінкай. Няма тут дзіва, калі адна з варшаўскіх дэмакратычных асветніц сказала, што на даклады, праводзімыя ў сталіцы яе арганізацыяй, запрашала галоўных камендантаў паліцыі і пажарнай аховы, сенатара, міністра і прафесара з ФРГ.

Краналася таксама і сітуацыя ў Беларусі, бо ж стан дэмакратыі там з'яўляецца няспынным амаль тэмай у большасці польскіх медыяў. Апазіцыйны БНФ у апошнім часе рэзка змяніў стратэгію і ад вулічных дэманстрацый перайшоў на арганічную працу і стварэнне сеткі пазаўрадавых арганізацый. Фонд PHARE прыдае гэтаму пэўнага аўтарытэту, аднак і моцна расчароўвае градацыяй адносін; выступаюць наогул тры ступені грашовай ацэнкі працы людзей: першая катэгорыя, гэта людзі Захаду, другая — Сярэдняй Еўропы, і трэцяя — Усходу.

Дарэчы, замежныя фонды, якія маюць несці нейкую дапамогу, у ацэнцы ўдзельнікаў сустрэчы часта ўскладняюць справу і даводзяць да высновы, што лепей абыходзіцца без іх. У дачыненні з імі выступае многа бюракратыі, складаныя патрабаванні з іх боку, затрымкі ў перадачы грошай, большасць з якіх яны і так забіраюць сабе, клопаты з рахункаводствам у розных валютах.

А ў мяне склалася ўражанне, што галоўным клопатам прадстаўляемых на сустрэчы фондаў з'яўляецца здабыванне ад спонсараў грошай сабе. У Варшаве з гэтым лягчэй, чым дзе.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Да гэтага мы не дараслі

Нядаўна сустрэў я ў Кляшчэлях сябрука Янку Малмышку, мясцовага лесніка. Падышоўшы да мяне з процілеглага боку тратуара, шпарнуў без задышкі:

— Слухаў ты па радыё Чыквіна?

— А што?.. — нічога не разумеючы, запытаўся я.

— Чыквін у нядзелю сказаў у беларускай перадачы, што быццам бы Вапа са сваім Саюзам не хоча аб'яднацца з Таварыствам і супольна ісці на выбары. Электарат Беларускага саюза будзе падтрымліваць Унію працы... А мне вядома, што БГКТ пойдзе галасаваць на кандыдатаў СЛД. Ці гэта магчыма?

І змяніўшы тэму неяк спакайней Янка загаварыў.

— Ты, Валодзька, пэўна знаёмы з Вапам? Ён, тутай, ад нас...

— У рэдакцыі неадноўчы сустракаемся.

— Дык скажы яму, як хутчэй, няхай з Сычэўскім дамаўляюцца і супольных кандыдатаў на адзін выбарчы спіс ставяць. Прытым, пэўна, і з рускай меншасці ўцягнуць маглі б. Ёсць у нас талковыя хлопцы. Чыквін з вопытам... Антон Мірановіч не лыкам шыты. Гэты паказаў бы мецэнасу Альшэўскаму дзе ракі зімуюць...

— Глянь на немцаў, — канстатаваў далей ляснік. — Усяго іх жменька, а чатырох сваіх у парламенце маюць. А што мы?.. У адных Кляшчэлях многія пайшлі б з намі. Думаць крыху трэба!..

Не стаў я спрачацца з прыяцелем, бо і сам толкам не разбіраюся. Абяцаў толькі, што, напэўна, „паталкую" пры нагодзе аб тых справах у Беластоку. І загаварыў я аб гэтым у рэдакцыі з нашым галоўным, Яўгенам Міраневічам. А той мне кажа:

— Два разы ставілі мы сваіх кандыдатаў. І што выйшла? Раз дзесяць тысяч галасоў атрымалі, другім разам чатыры. Гэта смешна! Няма адзінства ў нашага брата беларуса і стойкасці за свае справы. Схіляемся туды, дзе вецер лепш дзьмухне...

— Значыцца, не дараслі мы яшчэ да таго, каб пасла мець у Сейме з беларускага спіска? — пытаюся спадара Міраневіча.

— Пакуль што трэба чакаць. Мо калі і настане такі час, але не ў гэтай выбарчай кампаніі.

**Уладзімір Сідарук**

# Сустрэча прафсаюзных дзеячаў

Беларускія, польскія і амерыканскія прафсаюзныя дзеячы сустрэліся ў днях 5-8 чэрвеня ў Супраслі.

Тэмай сустрэчы былі „Перспектывы і метады дзейнасці прафсаюзаў у палітычным і эканамічным становішчы Беларусі". Арганізаваў яе Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў з фінансавай дапамогай Інстытута свабодных прафсаюзаў амерыканскай федэрацыі працы — Кангрэса прамысловых арганізацый.

У сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі прафсаюзаў, якія ўваходзяць у БКДП (Свабоднага прафсаюза Беларусі, Беларускага незалежнага прафсаюза, Свабоднага прафсаюза металістаў і Дэмакратычнага прафсаюза работнікаў транспарту) са старшынёй праўлення кангрэса Генадзем Быкавым на чале. З амерыканскага боку прысутнічаў м.інш. дырэктар прадстаўніцтва АФП-КПА у Варшаве Майк Ўаскі. Мясцовым арганізатарам сустрэчы быў Войцех Ловец, колішні старшыня праўлення Беластоцкага рэгіёна НСП „Салідарнасць".

Удзельнікі сустрэчы спрабавалі акрэсліць сучаснае становішча ў Беларусі і магчымы ход падзеяў у бліжэйшай і далейшай будучыні. Разважалася месца прафсаюзаў у варунках дэмакратыі і рыначнай эканомікі і дзейнасць у недэмакратычных сістэмах. Гаварылася пра саюзнікаў па-за прафсаюзамі (палітычныя партыі і іншыя арганізацыі). Асобнай тэмай была інфармацыйная палітыка прафсаюза.

З беларускімі прафсаюзнымі дзеячамі сваім вопытам дзяліліся дзеячы „Салідарнасці", у тым ліку старшыня праўлення рэгіёна Велькапольшча Януш Палубіцкі і Яцэк Мэркель, які ўжо па-за прафсаюзам, але калісь быў адным з правадыроў „Салідарнасці". Усю сустрэчу надзвычайна спрактыкавана вёў Стэфан Нендзынскі, шматгадовы правадыр міжнародных прафсаюзных арганізацый, у тым ліку Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў, колішні вязень савецкіх турмаў.

Беларускія свабодныя прафсаюзы, якія налічваюць каля 20 тыс. сяброў, дзейнічаюць у спецыфічным становішчы. Нельга яго параўноўваць з часам ваеннага становішча ў Польшчы, але свабодай дзеяння таксама гэтага не назавеш. Да таго невядома, як будзе развівацца палітычная сітуацыя ў Беларусі. Існуе пагроза абвастрэння становішча.

Свабодныя прафсаюзы, хаця колькасна невялікія, могуць паўплываць на ход падзеяў. Дзеля таго патрэбнае згуртаванне, еднасць думкі і мэтазгоднасць дзеяння. Гэтаму служаць падобныя супрасльскай сустрэчы.

У супольным свеце яднаюцца дзяржавы, карпарацыі, але таксама і работнікі. Беларускія прафсаюзныя дзеячы не будуць у сваёй працы бездапаможнымі.

**Алег Латышонак**

# Кухня рэферэндуму

Канстытуцыйны рэферэндум ужо за намі. Калі вядомымі сталі вынікі галасавання, я здзівіўся, што так мала грамадзян падтрымала новую канстытуцыю (52,71% за; 45,89% супраць). Не здзівіла мяне нізкая прысутнасць выбаршчыкаў пры урнах (42,86%), бо я разлічваў на яшчэ меншую. Калі б Беластоцкае ваяводства галасавала самастойна, канстытуцыя было б адкінута (44,24% за і 54,58% супраць).

Я быў членам участковай камісіі № 3 у Гайнаўцы (якая працавала ў будынку школы № 6) і меў магчымасць наглядаць за ходам галасавання. Яшчэ да рэферэндуму Гарадская управа правяла два абучэнні членаў камісій. У пятніцу (23 мая) публічна былі пералічаны і праверaны выбарчыя бюлетэні. У суботу праводзіўся кантроль выбарчых участкаў. У нядзелю па два члены ўчастковых камісій дзяжурылі ўжо ад гадзіны 3[30]. Каля чацвёртай раніцы на ўчасткі былі прывезены бюлетэні, якія да гэтай пары захоўваліся ў Гарадской управе. Затым былі ўстаноўлены шыльды і ўказальнікі. А пятай гадзіне прыйшлі астатнія члены камісіі. Тады быў распрацаваны графік дзяжурстваў і раздзелены задачы. А гадзіне 5[50] прыйшлі два мужы даверу, каб праверыць урну і сам участак.

Участак быў адкрыты роўна а шостай. Першай, а 6[10], прыйшла галасаваць старэйшая жанчына. Потым таксама пераважалі пажылыя людзі. Да 12 гадзіны прагаласавала 11,09% грамадзян. Большыя групы выбаршчыкаў прыходзілі пасля абеду, асабліва каля 18 гадзіны, і тады прысутнасць дасягнула 32,36%. Вечарам заходзілаа пераважна моладзь. Апошняй, а гадз. 21[40], галасавала 19-гадовая дзяўчына.

У гэты дзень здарыліся і свайго роду інцыдэнты. Напрыклад, жыхарка Варшавы пасварылася з камісіяй, бо хацела галасаваць, хаця не мела адпаведнай спраўкі з месца жыхарства. Іншая жанчына памылкова паставіла крыжык у бюлетэні не ў тым месцы, што хацела і патрабавала даць ёй другую картку. Параіў я ёй паставіць другі крыжык і тады голас будзе няважны. Потым, пры падліку галасоў знайшлі мы бюлетэнь з каментарыем і подпісам.

Перад дзесятай вечара сабралася ўся камісія і мужы даверу. Роўна а 22 гадзіне пачаўся падлік і перападлік галасоў. Аказалася, што на нашым участку 523 выбаршчыкаў (88,95%) выказаліся за ўвядзенне новай канстытуцыі, а 65 чадавек (11,05%) былі супраць. Знайшлі мы толькі два няважныя галасы.

Участковая камісія закончыла працу каля першай гадзіны ночы. Калі раніцай пайшоў я на працу, адчуваў стомленасць і радасць ад добра выкананага грамадзянскага абавязку.

**Славамір Кулік**

# Адгалоскі

## Няма з чаго цешыцца

Прачытаў я ў 22 нумары „Нівы" ад 1 чэрвеня г.г. публікацыю Міхася Куптэля „Усе наракаюць", які піша так: „Селянін з багатай вёскі Грыша Мароз, рабочы-пенсіянер Уладзімір Сідарук і інтэлігент-пенсіянер Васіль Петручук глядзяць на навакольную рэчаіснасць вачыма тэлебачання. І ўсе наракаюць. Ніякай радасці..." Дзіўным здаецца мне быць тое, што ўсе мы, карэспандэнты „старой даты", глядзім на сучасную рэчаіснасць вачыма тэлебачання. Нічога не робім, толькі наракаем на цяперашнюю долю. Так я зразумеў намёк аўтара рэплікі.

Хочацца мне спытаць паважанага калегу-карэспандэнта, якімі вачыма глядзіць ён на навакольную рэчаіснасць? З чаго ён цешыцца?!

Я, прынамсі, не бачу прычын для радасці. За дваццаць шэсць гадоў працы на чыгунцы ўспрымалі мяне ў крузе нашай „вярхушкі" як назойлівага труtня і „пісарчыка". Ніхто мяне не лічыў чалавекам, бо я ў сваіх карэспандэнцыях крытычна адносіўся да грамадскай паталогіі.

Памятаеце напэўна, аб чым я пісаў пры камуне? Калі не, дык прывяду словы Веры Валкавыцкай, адказнага рэдактара за працу з карэспандэнтамі, якая на з'ездзе карэспандэнтаў у 1975 годзе так канстатавала: „Вельмі цікавую і багатую натуру прадстаўляе сабой другі карэспандэнт года — Уладзімір Сідарук. Неспакойны, непаседа, не папусціць ніякім недахопам і хібам штодзённага жыцця, заўсёды стане на старонках „Нівы" ў абарону справядлівасці... Вельмі крытычны. Большасць яго публікацый — крытычныя. Дзякуючы ім „Ніва" памагла ўладзіць многія неправідловыя з'явы нашага жыцця".

І я зараз маю цешыцца з таго, што мае даўнейшыя начальнікі „вялікія патрыёты" пры камуне, ператтвораныя зараз у „народных дэмакратаў", набіваюць сабе кішэні грашамі ў прыватных суполках? Ці можа з таго, што ставіўшы пад ганебны слуп грамадскага асуджэння тых паразітаў, іхнія пабрацімцы з Генеральнай дырэкцыі ПКП не жадаюць мне нават адказаць на пісьмы, у якіх „дабіваюся" справядлівасці?

Не, паважаны прыяцель, мне не да смеху!

І яшчэ вось што скажу Вам, паважаны спадар Куптэль. Нічога я не „пераnутаў" у сваёй карэспандэнцыі „Дапамажыце землякі", якая друкавалася ў 19 нумары „Нівы" ад 1 чэрвеня г.г. Усё я назваў сваімі імёнамі. Добрае назваў добрым, зло прадставіў як адмоўныя патталагічныя з'явы. Толькі вы ўсё перакруцілі на свой спосаб, як гэта робіць журналіст Яцэк Фёдаровіч у сваім „Dzienniku Telewizyjnym". Вырвалі Вы адзін сказ з цэлага матэрыялу і ставіце мне закід, быццам бы я казаў, што „вандалізм пераshкаджае новай дэмакратыі".

Выказваючы погляд, што „дэмакратыя нічым не розніцца ад камуны", я меў перад усім на ўвазе быт „вярхушкі", пануючай „касты" пры камуне і долю звычайнага рабацягі, якому заўсёды вецер дзьмуў у вочы. Ці гэта не так?

А наконт вандалізму і грамадскіх чынаў можна спрачацца. Як даўней, так і зараз, былі адмоўныя з'явы ў нашым грамадстве. Праўда, не ў такім маштабе, але ўсё-такі трапляліся адзінкі, якіх я называў хуліганамі і вандаламі і ставіў пад ганебны слуп грамадскага асуджэння на старонках „Нівы".

Будуем таксама дарогі ў грамадскім чыне. Я ж паказваў прыклады гэтага ў сваёй карэспандэнцыі. Вы, пэўна, не хочаце гэтага зразумець, аднак гэта праўда!

А ў заканчэнні сваёй рэплікі прывяду думку сваіх былых начальнікаў: „Лепш кантраляваць кагосьці, чым самому быць кантраляваным". Сэнс гэтых слоў у мяне такі: „Лепш Вам напісаць „адгалоску" на нейкі артыкул надрукаваны ў „Ніве", чым самому непта цікавае паказаць у сваёй публікацыі". А мо Вы напішаце аб жыцці ў горадзе і пакажаце, як вы глядзіце на сучасную рэчаіснасць сваімі вачыма ў наступнай сваёй публікацыі. За цікавыя парады буду вельмі ўдзячны.

**Уладзімір Сідарук**

## Камуна вінавата

Мне і ў галаву не прыйшло і да гэтай пары не разумею усяго. Адно толькі думаў: „Кепскі час для вёскі настаў. Улады вінаваты. Відаць, аб гэтай галіне гаспадаркі прызабылі". А тут маеш табе, усяму мы самі вінаваты. Значыць, ад нас, мужыкоў, бяда вылазіць. А чаму? А таму, што мы розуму не маем, не ўмеем на вёсцы жыць. Усё гэта растлумачыў мне Міхась Куптэль. Не верыце? Пачытайце „Ніву" ад 1.06.1997 года. Паводле яго, нават тэлебачанне аглядаць як разумныя людзі не патрапім. Вось якія мы мужыкі! На адукацыю нам пэўна ўжо не пара, перамяніць нас ужо цяжка, а і паміраць нам яшчэ таксама ранавата. Адно астаецца, прымкнуцца і другім не мяшаць. Так думаю і зрабіць. Аднак перад гэтым, думка адна не дае мне спакою.: „Камуна ўсяму вінавата". Пры яе панаванні, разумныя людзі з вёсак у гарады паўцякалі, а на вёсках асталіся такія асталопы як я. Розуму не маюць і жыць не патрапяць як след ды толькі наракаюць. Нават не ведалі, што ў апошнюю восень на Гайнаўшчыне бульбу ад мужыкоў куплялі. Вось цемната! А ж мусеў нам аб гэтым Міхась Куптэль напамінаць, які сваё гняздзечка звіў дзесьці над морам. Аднак аб справах мужыцкіх на Гайнаўшчыне ведае лепш за нас. Вось талент! Аж шкада, што такія людзі ў гарадах марнуюцца, а вёска не выходзіць на шырокія воды. Відаць, з горада сялянскія справы лепш вырашаць. І зноў тут бяда. Запозна нам аб скупцы ён паведаміў. Бульбы ўжо мала асталося. Тая, што асталася або спакойна гніе, або кароўкамі скармляецца, хаця аб такім корме на вёсцы ўвосень не думаў ніхто. Вось так жыве неразумны мужык. А можна наладзіць усё і то хутка. Прапаную Вам, спадар Міхась Куптэль, вярнуцца на вёску. Тут Вас чакае ўсё: байкаватая бацькаўская хата, свая гаспадарка. Палеткі, калі хтосьці не арэ, дык пэўна, ляжаць аблогам. З Казахстана едуць да нас людзі, каб багата жыць. Вы вось доўга не думайце, толькі прыязджайце. Пастарайцеся нам паказаць, як пры цяперашніх уладах можна багата жыць, як інфраструктуру сваю развіваць, як долары з банкаў браць і перапрацоўчыя прадпрыемствы будаваць. Пакажыце, што можа зрабіць чалавек з галавой. Прызнаюся адкрыта, яшчэ падобнага чагосьці ў нас не відаць. А сялянскіх прадуктаў не будзе трэба Вам далёка шукаць. Малаком, мясам і збожжам дурныя сяляне заваляць Вас, а Вы толькі перапрацоўвайце і грошы лічыце, бо неразумны мужык толькі працуе як вол, а далей не ведае з чаго пачынаць. Падумайце над маёй прапановай, пакіньце свой горад і пакажыце, як трэба жыць з галавою. Сідаруку раіце як мае пісаць. Петручуку падказваеце, каб дзяцінства забыў. Усё не па думцы вашай пішуць. Нічога не зробіш!. Як хто навучыўся, так будзе пісаць, а як лёс пакіруе, так прыйдзецца пражыць! Усім не дагодзіш.

А мне здаецца, што як чалавек думае, так няхай піша. Гэта воля яго. І дзякуй за гэта, што такога часу дачакалі, што можам пісаць тое, што хочам. І за гэта трэба Бога хваліць, што даў нам магчымасць у такі час пажыць.

Мы аднак нічога не пераменім, каб аднолькава жыць. Адзін пражыве багата, другі ледзь канцы зводзячы. Адно толькі цешыць, што на канец жыцця адно ўсіх чакае! Шкада толькі, што жыццё так хутка ляціць і прыпынку не мае. Вось ужо і па вясне, і лета перад намі. А там і восень, і год ужо за намі. Не аглядзеліся, калі і адзін годзік прабыў за спіною. А гадоў не затрымаюць ні грошы, ні слава. Цяпер так яно ёсць і ад вякоў так бывала. А тут мы яшчэ папраўляем другіх, хаця часу не маем паглядзець на саміх сябе.

**Грыша Мароз**

# Пятро Магіла ў Супраслі

Вучоныя з Польшчы, Канады, Расіі, Украіны сустрэліся на канферэнцыі „Пятро Магіла і праваслаўная культура яго эпохі", якая адбылася ў будынках Супрасльскага манастыра ў днях 6-7 чэрвеня г.г. Гэта быў ужо трэці семінар з цыкла „Супрасльская лаўра", арганізаванага Брацтвам св.св. Кірылы і Мяфодзія з 1995 года. Павагі нарадам прыдала прысутнасць Яго Праасвяшчэнства архіепіскапа прафесара Савы, які не толькі выступіў з уводным дакладам пра Пятра Магілу, але знайшоў таксама час спаткацца з удзельнікамі семінара пры вогнішчы.

Плён сёлетняй сустрэчы вельмі багаты. Жыццё і дзейнасць Мітрапаліта ды яго эпоха асвятляліся не толькі з праваслаўнага боку, але і з пункту гледжання вучоных, якія цікавяцца праблемай з чыста даследчыцкіх пазіцый.

Аказваецца, супярэчнымі з'яўляюцца нават такія агульнапрынятыя факты з жыцця заснавальніка Кіева-Магілянскай акадэміі (аб ёй гаварыла праф. Тэрэса Хынчэўская—Гэнэль з Варшавы), як дата яго нараджэння. Дагэтуль прынята, што Пятро Магіла нарадзіўся ў 1596 г. І вось праф. Марыян Бэндза з Варшавы стаў даказваць, што герой канферэнцыі нарадзіўся на ажно 22 гады раней, у 1574 г. Асновай доказаў праф. Бэндзы паслужылі новазнойдзеныя інскрыпцыі, дзе падаецца прыведзеная ім дата. Да таго, калі прыняць ранейшую дату нараджэння, больш зразумелым становіцца, калі будучы мітрапаліт паспеў адбыць студыі ў іезуітаў у Францыі ды стаць настолькі вопытным вайскоўцам, каб камандаваць казацкай часцю ў час Хоцімскай вайны.

Асаблівае ўражанне пакінула выступленне д-ра Паўла Зёла з Канады пра расчытванне помнікаў музычнай палеаграфіі. Даследчык, сын паляка і англічанкі, так апантана паглыбіўся ў вывучэнне даўніны царкоўнай музыкі, што прыняў праваслаўе і вядзе ансамбль старадаўняй царкоўнай музыкі. Ён заахвочваў, каб і тутэйшыя аматары спеву стварылі падобны хор.

Калі ўлічыць, што ёсць у нас і гістарычная спадчына (напр. Супрасльскі ермалай, аб якім гаварыў праф. Юры Ясіноўскі са Львова) і музычныя сілы, застаецца прычакаць, хто падхопіць заклік канадскага вучонага.

На жаль, не было на канферэнцыі гасцей з Беларусі, але гонар замежных беларусаў абараняў доктар Мікола Нікалаеў з Санкт-Пецярбурга, які выступіў з дакладам „Літаратурныя рукапісныя кнігі ў Вялікім княстве Літоўскім".

Дзейным арганізатарам канферэнцыі быў доктар Антон Мірановіч, які апрача таго, што наглядаў за ўсім мерапрыемствам, выступіў з дакладам пра беларускага епіскапа Феадосія Васілевіча.

Гасцінным гаспадаром аказаўся ігумен Супрасльскай лаўры айцец архімандрыт Мірон. Дзякуючы яму ўдзельнікі семінара спажывалі не толькі духоўную страву, але і смачна абедалі ў манастырскай трапезнай.

Шкада толькі, што такі ўдалы семінар прайшоў пры нешматлікай публіцы. Што ж, публіку таксама трэба арганізаваць. Супрасль не за гарамі, але ж патэнцыяльная публіка жыве ў Беластоку. Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія павінна ўлічыць гэты факт, рыхтуючы наступную канферэнцыю з цыкла „Супрасльская лаўра".

**Алег Латышонак**

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

### Перад світаннем

З розных бакоў  
бягу ў цішыню пушчы.  
Світанне шалясціць пад  
нагамі, а дрэвы сонныя,  
белыя,  
як факелы святла.  
Узнімаю вочы ў неба,  
употай, каб не спугнуць  
павекамі зорак,  
што ўбілі зрок свой  
у зямлю.

### Куды

Усё ўцякаю ад дня ўчарашняга,  
дагэтуль важнага,  
хоць патанелага.  
Злая зіма явіцца выраем.  
Са мною боль,  
а ў болю крыўда,  
і не адна...  
Уцякаць,  
уцякаць...  
Толькі куды?  
Дзе соль пасаладзее?

### Без адказу

Не цалуй уласнага твару —  
пажоўкла фота,  
абрысы зацерліся,  
было-мінула,  
як дых у люстры —  
без пытанняў  
і без адказу.

### Даспяванне

Ноч. Безцялеснасць  
на прывязі сну,  
сярод ценяў хвілін,  
што злачынства не ведаюць  
ні асуджэння,  
дзе непрысутнае побач.  
І мне тут добра,  
не будзіце мяне.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## На лузе

З сябрам мы на луг бяжым —
Так дзівосна там!
Мяккі, велічны кілім
Разаслала лета нам.

Кветкі вытканы ў траве,
Музыка гучыць...
З неба сонейка плыве
Ў гэту казку — адпачыць.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

*Фота Міры ЛУКШЫ* ⇨



## Бабуля Вера з Каменя

Найстарэйшай жанчынай у Камені ёсць бабуля Вера Данілюк. У сакавіку г.г. споўнілася ёй 90 гадоў. Яна жыве з сынам і нявесткай. Вядома, як старэчы жывецца з маладымі. Але пра бабулю ніхто ніколі не скажа дрэннага слова. Яна заўсёды з усімі жыла добра, нікому не дакучыла і нічога паганага людзям не зрабіла. Бабуля Вера пражыла дзве вайны і абедзве вельмі добра памятае. Яна перацярпела бяду, гора, але ніколі не наракала, заўсёды была жыццярадаснай. Нарадзіла трынаццаць дзяцей. Усіх іх трэба было дапільнаваць, накарміць і ў полі работу зрабіць. Памагчы не было каму, свякрухі не было, маці жыла ў суседняй вёсцы з жонкай брата, якога забілі на вайне. Бабуля кажа:

— У жыцці я нічога добрага не дажылася і не бачыла. Але муж мяне не біў і не лаяў.

Хаця Веры Данілюк споўнілася 90 гадоў, памяць у яе добрая. Ніколі не сядзіць без работы, з ахвотай падмятае каля парога, на вуліцы каля плота вырве пустазелле. Яе пакоя ніхто не мусіць прыбіраць — гэтае ўсё робіць яна сама.

З выпадку дзевяностагоддзя з дня нараджэння да бабкі з'ехаліся дзеці, унукі і праўнукі. Юбілярка ад радасці і плакала, і смяялася, шкадавала толькі, што не пабачыць прапраўнукаў. Госці прывезлі з сабой кошык з кветкамі, вядома, вялізны: мусіла памясціцца ў ім 90 кветак.

— Калі яны паставілі яго на стале, то і стала не было відаць, — кажа бабуля.

## Аповед бабкі Веры

Кожны, хто мае ў хаце бабулю ведае, што яна памятае многа цікавых казак і падзей, якія сапраўды здарыліся. У мяне няма ў хаце бабкі і вельмі гэтага шкадую, аднак я магу пайсці да Веры Данілюк. Яна заўсёды тады раскажа штосьці цікавае, смешнае, а нават страшнае.

Нядаўна бабуля расказала мне вельмі цікавую, трошкі страшную гісторыю, якая сапраўды здарылася.

У вёсцы, дзе нарадзілася бабка Вера, жыў багаты хлопец, адзін у сваіх бацькоў. Нічога яму не бракавала, аднак аднаго дня ён учадзеў. Бацькі пахавалі яго. На палец паклалі залаты пярсцёнак, а на руку залаты гадзіннік, бо і каму ж было гэтае трымаць?

Хлопец да вечара паляжаў у зямлі і ажыў. Жывы ў магіле і вылезці няма як. На яго шчасце (і з-за яго багацця) на могілкі прыйшлі два злодзеі. Адкапалі магілу і адчынілі труну. „Нябожчык" аднак не паказваў, што ён жывы. Падумаў сабе: „Бярыце золата, вы ж мяне адратавалі". Першы злодзей улез у труну, зняў гадзіннік, вылез і гаворыць да другога:

— Ты, лезь па пярсцёнак!

Той так і зрабіў, аднак не даў рады зняць яго.

То бяры ў мяне нож, палец адрэж, — падказаў яму сябра.

Той злодзей хацеў ужо рэзаць палец...

У той хвіліне нябожчык крыкнуў:

— Не рэж пальца, я табе і так аддам пярсцёнак, бо ты мне труну адкрыў.

Пачуўшы гэтае, злодзей упаў на нябожчыка і памёр. Другі злодзей уцёк. А ўчадзелы хлопец вылез з магілы і накіраваўся ў хату. Па дарозе думаў: „Той абамлеў як я адазваўся, то і ў хаце ўсе пападаюць, калі мяне ўбачаць". Прыйшоў пад хату, пастаяў пад акном, давай уваходзіць. Адчыніў дзверы і адразу кажа:

Не бойцеся, я жывы. Толькі адзін са злодзеяў самлеў і не варушыцца.

Бацькі ўзрадаваліся, узялі ліхтарчык (як то калісь бывала) і пайшлі на могілкі. Заходзяць, глядзяць, а ў магіле суседзяў сын ляжыць нежывы. Малады — дурны, заплаціў жыццём за адзін залаты пярсцёнак.

Бабка кажа, што гэты чалавек, які ўратаваўся з магілы, жыў 90 гадоў. Некалькі гадоў таму памёр.

Памятайце, жыццё важнейшае ад багацця.

**Яся Сегень з Каменя**

## Маё жыццё

Яна — прыходзіла вечарам у мой пакой, рукамі з бруднымі ногцямі хапала мяне за горла і ціснула дагэтуль, пакуль не вылецелі мне ўсе зубы — адзін за другім. У зубах я назбірала немалы кусок неба. Цераз гэта мая душа стала цёмная і пустая.

Ён — звязваў мне рукі і ногі, і разагрэтым прасам рабіў узоры на маім целе, пакуль страціла яно часткі надзеі і шчасця.

Цяпер я ўжо вялікая, аднак, чагосьці ўвесь час не хапае. У кутках майго пакоя я схавала астаткі маіх мар. Яны задумваюцца, чаму ноччу я бадзяюся па пакоі і плачу... Я нарадзілася з дурным прадчуваннем, што свет ёсць справядлівы і добры.

*(Гэта сапраўды не маё жыццё, толькі спроба эпічнага твора. А можа ёсць у гэтым часцінка праўды?)*

**Адзінокая**

Я — адна.
На бездарожжы адчаю хапаю слова.
Мыслі затапіліся ў прасторы неба,
Заблыталіся ў няўхільныя рукі дрэў,
Разгубіліся ў цэласці паветра.
Я — адна.
На бездарожжы адчаю ўцякаю
ў цень.
Шукаю бязгрэшнай адзіноты,
Малюю крывёю дно будучага,
Упіваюся светам фантазіі.
Я... адна.

**Апошні**

— Астанься!
Не адбірай мне апошніх праменняў
надзеі,
якія я з вернасцю даглядала.
— Астанься.
Пустазелле зарастае маю душу,
Хаця раней я да таго не дапускала.
— Астанься.
Аддай мне шчасце,
яно не толькі твая ўласнасць.
— Астанься.
Намалюю твоі характар
на белым лісце паперы.
— Астанься.
Ідзі!
Дай мне дыхаць...

**Агнешка Х.**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, дарагая Агнешка! Шкада, што ты не ўдзельнічала ў конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Твае вершы і проза вельмі адрозніваюцца ад творчасці тваіх аднагодкаў. Ты ўмееш пісаць пра аўтэнтычныя перажыванні і пачуцці. А гэта вельмі цэнная здольнасць. Мне падабаюцца твае творы.

**Зорка**

PS. Я хацела б запрасіць цябе на Сустрэчы „Зоркі". Напішы, што пра гэтае думаеш.

**„З"**

## Экскурсія ў горы

20 мая 1997 года здзейснілася мая мара. Паехала я разам з маім класам на доўгачаканую экскурсію ў горы.

Амаль цэлы першы дзень мы падарожнічалі. Аглядалі толькі шахты солі ў Вялічцы. Мы спусціліся на глыбіню аж 130 метраў пад зямлёй. Бачылі там цудоўныя скульптуры з солі, хадзілі доўгімі падзямельнымі калідорамі. Мне тут вельмі падабалася.

Начавалі мы ў турыстычных домiках у Мысленіцах. Гэта невялікая мясціна, распалажаная ў цудоўным, зялёным месцы.

На другі дзень паехалі мы ў Кракаў. Аглядалі там Вавель, рынак і Сукенніцы, слухалі *гэйнал* з Мар'яцкай вежы.

Вечарам паехалі ў Белы Дунаец. Там начавалі. З акна нашага гатэля вельмі добра відаць было горы, а недалёка іх — прыгожую раку Дунаец. Гэты невялікі гарадок вельмі мяне захапіў.

23 мая трэба было рана ўстаць, каб паехаць у Касцяліскую даліну. Асабліва спадабаўся мне ўваход ў пячору. Увайсці ў яе было вельмі цяжка і небяспечна, бо раней падаў дождж. Мы амаль што плавалі ў гразі.

З Касцяліскай даліны вярнуліся мы мокрыя і стомленыя. Але нам неабходна трэба было вярнуцца ў Белы Дунаец. Калі апрануліся ў сухую вопратку і павячэралі, наладзілі дыскатэку. Усе танцавалі. На жаль, настаўнікі хутка загадалі нам ісці спаць, таму што на наступны дзень чакала нас доўгая дарога на Марское Вока. І праўда! Дарога была вельмі цяжкая. Аднак не заняла яна нам многа часу. Хутка паехалі мы ў Закапанае і чыгункай падняліся на гару Губалуўку, з якой аглядалі цудоўныя краявіды Татраў. „На зямлю" з'ехалі мы падвяснойканатнай дарогай.

Вечарам была развітальная дыскатэка і вогнішча над Дунайцам. Некаторыя амаль плакалі, што ўжо на другі дзень трэба вяртацца дадому. Сумна было развітвацца з гэтым цудоўным, прыгожым месцам.

Думаю, што гэтая незабыўная экскурсія ў горы надоўга застанецца ў маім сэрцы і памяці.

**Мажэна Жменька,**
**кл. VI „е" бельскай „тройкі"**

# Францішак Багушэвіч

Нарадзіўся ў 1840 годзе на Віленшчыне ў збяднелай шляхецкай сям'і. Закончыўшы Віленскую гімназію, пачаў вучобу на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбурскага універсітэта, але хутка выключылі яго са спіска студэнтаў за палітычную дзейнасць. Узяў ён удзел у паўстанні 1863 года, а пасля скрываўся ў Вільні і на Украіне. У 1884 г. пачаў працаваць адвакатам у Вільні, дзе бараніў беларускіх сялян у судовых працэсах, якія тады часта вяліся па іску польскай шляхты і расейскай адміністрацыі.

Багушэвіч у гісторыі Беларусі вядомы аднак не як палітычны дзеяч ці адвакат, а толькі як пісьменнік і публіцыст. У 1891 г., пад псеўданімам Мацей Бурачок, выдаў у Кракаве першы зборнік сваіх вершаў „Дудка беларуская". Другі зборнік „Смык беларускі" паказаўся тры гады пазней у Познані. Багушэвіч прабаваў таксама друкаваць у Вільні, за дазволам цэнзуры, але трэці том яго вершаў „Скрыпка беларуская" і зборнік „Беларускія апавяданні Бурачка" не выйшлі з рук царскіх чыноўнікаў.

Багушэвіч упершыню на беларускай мове аб'явіў суседнім народам, а перш за ўсё расейцам і палякам, што існуе беларускі народ, беларуская зямля, мова, гісторыя. Заклікаў ён беларусаў шанаваць усё сваё. Героем яго твораў быў найчасцей селянін, якога крыўдзілі чужыя памешчыкі, суды, чыноўнікі, і які ўсё-такі захаваў сваю чалавечую годнасць. Пра беларускую мову пісаў, што дадзена яна Богам. Беларусы атрымалі яе так, як кожны іншы народ. „Яна нам святая, — пісаў, — яна адзежай нашай душы. Мова ёсць асновай існавання нацыі. Калі народ траціць сваю мову, траціць душу і сам прападае. Такі народ, які не патрапіць шанаваць падарунку дадзенага ад Бога не заслугоўвае на існаванне" — пісаў сваім суродзічам Францішак Багушэвіч.

# Тут мы яшчэ не танцавалі

Я ўжо няраз пісала пра розныя турніры бальнага танца, у якіх мы з маім партнёрам па танцах Якубам Вайдановічам бралі ўдзел. А на гэты раз мы выступілі у музычнай школе.

Справа ў тым, што 30 мая там адбылася ўрачыстасць для выпускнікоў падставовай школы. Я сёлета якраз закончыла музычную школу І ступені па класу фартэпіяна і паступіла ў сярэднюю музычную школу ці, як яе называюць, ІІ ступені.

Экзамены былі даволі цяжкія і трывалі вельмі доўга. У камісіі было 24 асобы: палавіна — гэта былі выкладчыкі з пачатковай школы, а палавіна — з сярэдняй. Кожны ацэньваў па-свойму.

У сярэднюю школу прынялі чатырох піяністаў, у тым ліку і мяне. Настрой у мяне быў цудоўны і, калі настаўніца Гражына Арысяк папрасіла, каб мы з Кубам затанцавалі ў часе канцэрта, я адразу згадзілася. Трэба было станцаваць англійскі вальс пад гукі фартэпіяна (на чатыры рукі) і танга — пад дзве флейты.

Пасля прамоў і ўрачыстага ўручэння дыпломаў пачаўся канцэрт. Спачатку я спявала ў хоры, а пасля мы танцавалі.

Дзяўчынкам вельмі спадабалася мая сукенка, а прафесары дзівіліся, што „такія малыя ўмеюць так танцаваць". Усім тут чамусьці здавалася, што іграць — на піяніне, скрыпцы, віяланчэлі, флейце, саксафоне — дык гэта вельмі лёгка. Але танцаваць?! Дырэктар Станіслаў Алендскі нават зрабіў нам здымак.

Калісь у танцавальным клубе, да якога мы належым, калі даведаліся, што я іграю, таксама вельмі дзівіліся. Гэта ж такое недасягальнае!

А мне здаецца, што ўсяму можна навучыцца, ды толькі гэта патрабуе, вядома, трохі часу і працы. Мама сказала, што ў чалавечай натуры — захапляцца тым, чаго не маеш.

Мой партнёр Якуб таксама быў вельмі задаволены выступленнем і сардэчным прыёмам у музычнай школе. Мы з ім вучымся ў Падставовай школе № 9 у Беластоку, але ў розных класах.

**Адрыяна Семянюк**

*Фота А. Ч.*



# Польска-беларуская крыжаванка № 25

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Mur | Śpiwór | | Pałac | | |
| Zupa | | | | | Ser |
| Żelazko | | | | | |
| Ołtarz | | | | | |
| Jan | | Oracz | | | Bas |
| | | | Skrzydła | | |
| Nerka | | | | | |
| Mars | | | | | |
| | | | | | Osa |
| Pięty | | | | | |
| Ikona | | Szydło | | | |

Адказ на крыжаванку н-р 21: **Абрадавае печыва.**

Узнагароду — **кніжку „Казкі дзяцей Беларусі"** — выйгралі: **Паўліна Савіцкая** з Гарадка, **Тамаш Гаўрылюк** з Кленік, **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага, **Андрэй Крук** з Катоўкі і **Адам Грынявіцкі** з Нарвы.

Віншуем!

# Гданьскія замалёўкі

***(пачатак у 23 нумары)***

Пасля экскурсіі на Кашубы мы наладзілі вечарыну. Нас чакала чарговая неспадзяванка: сустрэча з прафесарам Гданьскага універсітэта Анджэем Хадубскім. Наш госць расказваў пра тысячагадовую мінуўшчыну і сучасны Гданьск. Кожны турыст абавязаны з'есці гданьскую рыбу — асятра або селядца і пакаштаваць залатой гарэлкі — Goldwaser.

*(Бася Казімерук)*

Мы пачулі, што Гданьск быў невялікім горадам. Ён займаў толькі 1 гектар тэрыторыі і пражывала ў ім 200 чалавек. Самыя цікавыя пабудовы тут — касцёлы, якіх у „старым" Гданьску дванаццаць. Некаторыя з іх пабудавалі крыжакі. Для муравання, каб цэгла моцна трымалася, крыжакі прымянялі яйкі. Яшчэ мы даведаліся пра гданьскае піва „Гевеліюш", якое прыдумаў тутэйшы астраном Гевелій.

*(Анджэла Быкава)*

Пасля вечарыны многія пайшлі з Агатай Глагоўскай знаёміцца са старым горадам. Побач нашай гасцініцы многа старых вулічак і нацыянальны музей... Ах, які доўгі дзень!

*(Бася Казімерук)*

**21.05.1997 г.**

Кожны чалавек мае свае мары. Мне ўжо здаўна снілася мора, якога я дагэтуль не бачыла. І вось пасля снедання мы плылі суднам у Сопат. Мяне захапілі навакольныя краявіды.

*(Ірэна Кулік)*

(...) Мы шпацыравалі па сопацкім молу, які мае 395 метраў даўжыні. У Сопаце мы пабачылі старое Казіно і „Гранд-гатэль". Сопат — гэта горад, які шчасліва абмінула другая сусветная вайна.

*(Бася Казімерук)*

Спадарыня Лена Глагоўская расказала нам пра Сопат і яго слаўных людзей. Мы наведалі месца звязанае з беларускай гісторыяй. У даваенны час у Сопаце знаходзілася Цэнтральная ўправа беларускай арганізацыі Грамада. Мы наведалі дом, дзе жыў кіраўнік Грамады Браніслаў Тарашкевіч. Завіталі таксама ў евангеліцка-аўгсбурскі (лютэранскі) касцёл, дзе пра веру расказваў рэстаўратар помнікаў Юзаф Садоўскі. Мяне здзівіла, што ў гэтым касцёле няма ікон. У Сопаце я ўпершыню пабачыла камінара. Калі ён праходзіў, усе мы схапіліся за гузікі, каб здзейсніліся нашы мары.

*(Ірэна Кулік)*

Пасля абеду мы паехалі ў бібліятэку. З увагі на тое, што спадарыня Лена Глагоўская, спадар Алег Латышонак і спадар Славамір Іванюк прэзентавалі свае кніжкі і выданні Беларускага гістарычнага таварыства, некалькі асоб з нашай групы прысутнічала на гэтай сустрэчы. Я праўдзе і не ўсё разумела пра што гаварылі вучоныя. У час зваротнай дарогі я зразумела, як некаторыя многа дасягнулі ў жыцці, і як мне да іх далёка. Часам і я абяцаю сабе, што буду старацца вучыцца, каб і мяне шанавалі і цанілі як нашых беларускіх гісторыкаў у Гданьску.

*(Ірэна Кулік)*

Вечарам, у $20^{20}$ наш аўтобус ад'язджае ў Вільню. Мне вельмі сумна, я не хачу ад'язджаць. Цяжка, сумна, але што зробіш? Я буду чакаць вас, беластачане, у Вільні. Я вас усіх кахаю!

*(Інга Алітойць)*

Прыйшоў час развітання. Некаторыя нават паплакаліся. І я ледзь не пусціў слязу. Без сяброў з Вільні так сумна.

*(Міхась Сцепанюк)*

***(працяг будзе)***

# Кашубы любяць беларусаў

Аўтобусная экскурсія з Гданьска ў Гладніцу. Кашубшчына ўражвае маляўнічымі краявідамі. Азёры, узгоркі, палі квітнеючага рапсу, лясы. Не дарма гэтую зямлю і называюць кашубскай Швейцарыяй. Увагу падарожніка прыцягваюць драўляныя крыжы, упрыгожаныя каляровымі вяночкамі і гатычныя касцёлы. Мураваныя сядзібы кашубаў значна адрозніваюцца ад пэгээраўскіх пасёлкаў Прымор'я. Гаспадаркі кашубаў дагледжаныя і задбаныя. Тут проста адчуваюцца насельніцкія традыцыі. З Гданьска ў Гладніцу дарога далёкая і клапатлівая. Адсутнасць дарожных указальнікаў прымусіла нас безупынна блытаць дарогу.

Пасля двух з паловай гадзін падарожжа спыніліся мы ў чарговай вёсцы, каб папытаць пра дарогу. Паказалася, што стаім у самай Гладніцы.

— Каб не гэтае бездарожжа і далёкасць ад свету, нас бы тут не было, — дадаў Вітальд Баброўскі, дырэктар адзінай кашубскай школы. — Доўгі часураднікі не ведалі, што папраўдзе ў Гладніцы тварыцца. Або блыталі дарогу, як ехалі да нас у госці.

Кашубская школа з трыма пачатковымі класамі існуе ад 1991 года. На будынку чырвонай мураванкі з гатычнымі вокнамі — двухмоўная кашубска-польская шыльда. Побач яе герб кашубаў — чорны грыф на жоўтым полі. Ля ўвахода жоўта-чорны сцяг.

— Гэтую школу пабудавалі немцы сто гадоў назад. Тады такія школы ставілі кожныя пяць кіламетраў, — кажа Баброўскі, — каб хутчэй асіміляваць кашубаў.

У стогадовым будынку не пачуеце паху старасці. Наадварот, памяшканні ўражваюць дбайнасцю, мастацкім інтэр'ерам і сямейнай атмасферай. Сам дырэктар па школе ходзіць у тапачках. Класныя залы аж зззяюць ад дзіцячых малюнкаў, этнаграфічных і нацыянальных рэквізітаў. Тут сустрэнеце і рыбацкія сеткі, велікодныя пальмы даўжынёю да двух метраў, нацыянальныя ўборы. Што цікавае беларусу ў нацыянальных кашубскіх вышыванках? У каларыстыцы пераважае васількoвы колер, а кветкі нагадваюць узоры са слуцкіх паясоў.

Толькі зараз узнікла праблема, бо ўлады забаранілі сеяць махорку, з якой робяць табаку.

— Асаблівае значэнне для кашуба мае табака, — частуе дарослых гэтым далікатэсам гаспадар. — Для тутэйшых мужчын табака — гэта сімвал добрай бяседы, сяброўства. Даўней, па традыцыі яшчэ, нюхалі яе ў касцёле.

У школе настаўнічае паэтка Яраміра Лябуда, якая навучае кашубскай мове. Яна заадно піша п'есы для дзіцячай аматарскай сцэны, перакладае сусветныя дзіцячыя шэдэўры. Вось нядаўна паказалася кніжачка — пераклад казкі Г. К. Андэрсена „Брыдкае качанё". Кніжачка захапляе дзіцячымі малюнкамі. Якраз дырэктар Баброўскі па прафесіі мастак.

— Дзіця лепш развіваецца, калі вучыцца на сваёй роднай мове, — паказвае дзіцячыя малюнкі Баброўскі.

Лягчэй ім таксама рэалізавацца ў мастацкіх занятках. Як доказ сказанага, настаўнікі дадаюць:

— Нашыя дзеткі прымалі ўдзел у літаратурным конкурсе. Першакласнікі заваявалі першае месца, а трэцякласнікі — трэцяе.

Яраміра Лябуда, дачка кашубскага паэта і дзеяча, прачытала некалькі сваіх вершаў.

Кашубская літаратурная мова адрозніваецца ад дыялектаў. Некаторыя папракаюць яе ў штучнасці, — кажа паэтка.

Нялёгкая доля кашубскага інтэлектуала. Нацыянальная справа жыве дзякуючы ахвярнасці энтузіястаў. Вось, напрыклад, спадарыня Лябуда штодзённа даходзіць пяшком у школу чатыры кіламетры.

— Гэта аўтахтоны павінны быць гаспадарамі на сваёй зямлі, — кажа яна.

Ці кашубы трымаюцца свайго? Так. Але і баяцца сваёй іншасці. Бо калі ў вёску завітае паляк, пачынаюць гаварыць па-польску. Мяняюць мову і тады, калі садзяцца ў аўтобус, які едзе ў вялікі горад. На пытанне пра нацыянальнасць вам адкажуць:

— Мы кашубы, але мы палякі!

— Складанасці ў нацыянальным пытанні вынік таго, што кашубы не маюць сваёй дзяржавы, — кажа Баброўскі. — Раней асімілявалі іх немцы, а зараз гэты працэс ідзе ад палякаў. Апрача адзінай кашубскай школкі (затое сапраўднай), усе навучальныя ўстановы — польскія. У некаторых з іх вывучаюць родную мову як дадатковы прадмет. У Тчэве працуе ліцэй, дзе раз у тыдзень выкладаецца кашубская мова. Зараз ідуць старанні адкрыць факультэт кашубскай мовы на Гданьскім універсітэце. Роднае слова можна пачуць у лакальным тэлебачанні. Апрача перадач вядуцца і ўрокі кашубскай мовы.

Вітальд Баброўскі ведае на сваім прыкладзе, што мову кашубаў можна вывучыць. — Яго маці слянзачка, а жонка — полька. Спадарыня Галіна Баброўская — дачка рэпатрыянтаў з Ашмяншчыны. У кватэры сустрэнеце беларускія народныя рэквізіты. Кватэра спадарства Баброўскіх знаходзіцца ў тым жа будынку, што і школа. Перад імі тут быў вясковы дом культуры. Спадарства Баброўскія супольна з бацькамі дзяцей адрамантавалі будынак. Зараз думаюць пра новую хату.

— Там ствару прыватную, кашубскую школу, — кажа Баброўскі.

Пазней наведваем яшчэ этнаграфічны музей у Вдзыдзах-Кішэўскіх. Каб агледзець увесь скансэн, трэба прысвяціць дзве-тры гадзіны. Распаложаны ён над чароўным возерам Вдзыдзэ. Як паяснілі мясцовыя „Вдзыдзэ" — гэта імя вадзяной прыгажуні, якая паказвалася кашубскаму князю.

У музеі сустрэнеце разнавідныя сялянскія і шляхецкія сядзібы, ветракі, касцёл, старую школу, выстаўкі народнага мастацтва і кашубскі пачастунак. Паклоннікі рэгіянальнай кухні могуць пакаштаваць стронгу па-кашубску, салодкія аладкі *рухалкі* ці арыгінальны хлеб са шмальцам. У час нашай пабыўкі музей наведалі іншыя экскурсіі. Такая форма — спосаб на прывабную рэкламу рэгіянальных традыцый.

Варта ўспомніць, што тут выступаюць фальклорныя калектывы. Самадзейнікі такім чынам маюць магчымасць выступаць і пры нагодзе зарабляць грошы.

* * *

У час сустрэчы з журналісткай Радыё Гданьск Ганнай Сабэцкай я папытала пра ўспрыманне радыёперадач пра беларусаў.

— Беларусамі вельмі цікавяцца кашубы. З іх боку сустракаем не толькі зацікаўленне, але і сімпатыю, — кажа мая субяседніца. — Гэта сувязь завязалася дзякуючы беларускім і кашубскім мовазнаўцам, якія супольна даследуюць свае мовы.

У час гутаркі са спадарыняй Сабэцкай мне прыгадаліся словы экскурсавода з Вдзыдз-Кішэўскіх.

— Мы — кашубы, але палякі, — сказала пра сваё паходжанне працаўніца музея.

— А мы, беларусы з Беласточчыны, — прадставіліся мы ў сваю чаргу.

— Мы кашубы, тутэйшыя кашубы, — яшчэ раз прадставілася сціпшаным голасам жанчына.

Вось і зразумела, чаму паміж кашубамі і беларусамі завязваецца сімпатыя.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Этнаграфічны музей у Вдзыдзах-Кішэўскіх. Старая школа.*

# Хай самі чытаюць

Пацікавіўся я, ці ў Орлі і наваколлі маюць людзі магчымасць набыць і чытаць рэгіянальныя беларускія газеты — „Ніву" і „Часопіс", ці трапляюць яны ў кіёскі, цэрквы, школы, бібліятэкі і Гмінны асяродак культуры. На вуліцы сустрэў я пісьманосца з паштовага аддзялення ў Градалях **Уладзіміра Данілюка** — жыхара Малінніка.

— Пошта ў Градалях атрымоўвае беларускія выданні, — сказаў ён мне. — Некалькі штук разношу па хатах, але людзі купляюць мала. Мне, як пісьманосцу, даводзіцца тлумачыць, заахвочваць, рэкламаваць часопісы. Калі ў газеце з'явіцца цікавы артыкул аб нашых вёсках, цэрквах ці людзях, тады паказваю патэнцыяльным пакупнікам і тады некаторыя купляюць. Гавару людзям так: „Якія ж вы беларусы, калі не хочаце чытаць сваёй газеты". Паводле маіх меркаванняў, „Ніва" страціла сваю атракцыйнасць з прычыны ўстарэлага графічнага афармлення. Трэба было б гэта неяк змяніць, пачаць аб'яўляць конкурсы для чытачоў, вядома, з цікавымі ўзнагародамі. Разношу газету галоўным чынам сялянам і пенсіянерам. У Пачатковай школе ў Малінніках, у якой вучыцца больш за сто дзетак і ў якой вядзецца навучанне беларускай мовы, „Нівы" ніхто не бярэ. Па вёсках вісяць паштовыя скрынкі, з якіх я выбіраю лісты. Нядаўна ў Тапчыкалах (глядзі здымак) у скрынку нехта насыпаў нейкага попелу. Калі б тады нехта ўкінуў ліст, то не ведаю, што было б.

Пісьманосцы з Орлі менш наракаюць, а гэта таму, што ў іх ёсць больш пастаянных чытачоў. Пенсіянеры ўмеюць чытаць па-беларуску, бо пры саветах і нямецкай акупацыі вучыліся на беларускай мове. У Крывятычах, напрыклад, пенсіянер Яша Багацэвіч ужо дзесяцігоддзямі пастаянна купляе, чытае і захоўвае „Ніву" і ў сваім доме мае ўжо значны архіў.

Пачатковая школа з беларускай мовай навучання ў Орлі атрымоўвае ўсяго пад дваццаць экземпляраў „Нівы", з ліку якіх адзін паасобнік трапляе ў бібліятэку, і адзін „Часопіс". Дзеці заносяць „Ніву" дадому, а там тыднёвік чытаюць бацькі.

У кіёску ў Орлі можна купіць абодва беларускія выданні. Прадаюцца яны нядрэнна: часам бывае, што ўсім ахвотным не хопіць газет (напрыклад, з календаром), часам бываюць звароты. Здараецца, што адзін экземпляр чытаюць некалькі чалавек, каб самому не плаціць. У кіёску купляюць выключна пенсіянеры.

Недарэчным мне здаецца, што Гмінны асяродак культуры, Публічная бібліятэка і Гмінная ўправа ў Орлі цяпер увогуле не купляюць беларускіх газет. Гмінны сакратар рашуча забараніў выдаваць грошы на „нейкія там беларускія ці праваслаўныя газеты". Кажа ён: „Няма ў нас грошай. Самі яны пішуць, няхай і самі чытаюць!"



*Уладзімір Данілюк з Маліннік.* Фота М. Мінцэвіча

У арлянскай царкве прыхаджане могуць купіць толькі „Часопіс", але „Нівы" ў ёй няма. Псаломшчык Дзмітрый Мартыновіч тлумачыць гэта тым, што пры камуне „Ніва" непрыхільна ставілася да Царквы. Ён сам „Ніву" купляе.

Цікава было б даведацца, як разыходзяцца нашы беларускія выданні ў іншых гмінах і прыходах.

**Міхал Мінцэвіч**

Якія мы людзі

# Міска

Даруй чытач! Надышло лета, і ў галаву так і лезуць летнія тэмы, фрывольныя ўспаміны.

Летам восемдзесят трэцяга мы адпачывалі ў Балгарыі. Надвор'е, на дзіва, як і ў нас: на чатырнаццаць дзён — пяць дзён роўнай пагоды, а дзевяць — „у клетку”. Але тамашняга дажджу ніхто не баяўся. Людзі ляжалі на пляжы, а ён сабе капаў буйнымі, рэдкімі кроплямі, а пасля ізноў было сонечна.

А як жа было вяртацца дахаты незагарэлым? Каб і не відаць было, што чалавек адпачываў на поўдні?! Белыя вунь з Сопата няхай вяртаюцца! Адразу па іх відаць, што носа не высунулі са сваёй летнямокрай краіны. Не на тое чалавек грошы выкідаў, каб дома не паказацца...

Смажыліся людцы на сонейку, гатовыя аддаць, здаецца, усё золата свету за залаты загар. Смажыліся і мы, а таксама і наша суседка па століку, якая, як высветлілася, уцякла сюды якраз з перапоўненага людзьмі, даждлівага ў той год Сопата. Была гэта даволі мілая дамачка моцна сярэдніх гадоў. Невысокая, празмерна пульхная, з чорнымі, як вугаль, пафарбаванымі валасамі. Дамачка была з кіно — працавала білецёркай у нейкім сопацкім кінатэатры — і надта ганарылася тым, што была так блізка ад дзесятай музы.

На жаль, суседка наша ні ў чым не напамінала музу. Хадзіла вельмі павольнымі крокамі, бо было ёй цяжка, а ад стала дык ледзь уставала. Балазе чацвёрты з нашага століка быў на дыэце і не мог есці ні вострага „леча”, ні вараной бараняй галавы, яна з'ядала за кожным разам прынамсі паўтары порцы, не клапоцячыся пра тое, што скажуць у кіно, калі яна яшчэ больш растаўсцее.

Яда і пляж, пляж і яда, ну, а да таго некалькі экскурсій у глыб краіны. І пад канец яшчэ арганізатары прыдумалі конкурс на міс загару.

Вячэра была ўрачыстая, на два доўгія сталы. Спачатку далі віна і добрай закускі, а пасля пачалося высоўванне кандыдатур на тую „міску”.

Я разгледзелася сярод нашых. За другім сталом сядзела вельмі прыгожая маладая жанчына, якая прыехала адпачываць з мужам і шасцігадовым хлопчыкам. Я ўжо і раней звярнула ўвагу на яе хараство, а цяпер яе загарэлы твар выглядаў, як цудоўны персік, і ўся яна была цёмная, быццам смакавітая шакаладка. Не было тут прыгажэйшых за яе. Зрэшты, відаць было, што і яна пра гэта ведала, бо была вельмі самаўпэўненая. Быццам бы перамогу мела ўжо ў кішэні. Ну, каго ж тут можна выбраць сярод гэтай шэрай масы, як не яе?! Не. Няма нікога.

І тут адазваўся ў маёй душы д'ябал. Аж карцела, каб даказаць бабе, што яшчэ яна не перамагла. Д'ябал быццам казаў: „Найпрыгажэйшая? Ну, гэта мы яшчэ ўбачым!”

У гэты момант нехта высунуў кандыдатуру тае прыгажуні. Каб было смешна і весела, я запрапанавала на „міс загару” нашу суседку. Яна сапраўды ў беласнежнай блузачцы выглядала, як аліўка: роўны загар зрабіў яе твар даволі прывабным.

Сталы пачалі перакрыквацца: хто каго! Мы з мужам крыкнулі, аж загрымела: „Рэня, Рэня!” Людзі, што сядзелі за нашым сталом, умомант зразумелі мае інтэнцыі і ахвотна падхапілі той жа матыў: „Рэню!”

За суседнім сталом галасы былі значна цішэйшыя (відаць, д'яблы, што сядзелі ў тых жанчынах, падказвалі: „Хопіць ёй і таго, што прыгожая! А мы ёй больш прафітаў не дамо!”). Пераважалі там мужчынскія галасы.

А наш стол быццам ашалеў. Усе былі дружныя і аднагалосныя ў сваім рашэнні: міс загару павінна быць наша Рэня, і ўсё. Ніводнаму аб'ектыўнаму наглядальніку не было б зразумела, што асабліваг мы раптам убачылі ў гэтай звычайнай пажылой жанчыне, загар якой нічым не адрозніваўся ад загару іншых, бо паўднёвае сонца для ўсіх ласкавае, але трэба было зразумець філасофію натоўпу. Да нас далучалася ўсё больш галасоў прысутных: Рэню давай — і ўсё! Быццам не было тут большай прыгажуні, чым павольная, тоўстая Рэня, і на ёй менавіта сышоўся свет для сабраных.

Галасы на першую кандыдатку ўсё цішэлі, а ўрэшце сярод яе прыхільнікаў чуваць было толькі яе мужа і сынка. Жанчына апусціла нос, сядзела пакрыўджаная і панурая. Калі вядучы гэту забаву абвясціў вынік конкурсу (а перамагла, вядома, наша дама з кіно) першая кандыдатка не вытрымала і расплакалася, як дзіця. Па яе шчоках цяклі чорныя ад тушы слёзы.

Не то што мне стала шкада гэтай жанчыны (чаго яе шкадаваць, што, яна дзіця пахавала!..), але было непрыемна, што менавіта я была маторам гэтай забавы (хаця гэтага, бадай, ніхто не заўважыў). Мне нават не прыйшло ў галаву, што такая прыгожая і самаўпэўненая жанчына можа зарэагаваць падобным чынам.

І так жа ўсім было вядома, што найпрыгажэйшая тут яна, а ўвесь гэты цырк робіцца дзеля смеху. Я меркавала, што гэта прыгажуня далучыцца да згоднага хору і пачне крычаць разам з намі: „Рэня, Рэня!”, і тады менавіта яе перамога, а не Рэні, нашай суседкі з-за століка, была б відавочнай усім. А яна расплакалася сваімі маладымі, быццам дзіцячымі слязьмі, і толькі цяпер людзям па-сапраўднаму стала смешна.

А мне стала смешна крыху пазней, калі цэлай гурбою мы вярталіся з рэстарана ў гатэль. Да нас падышла тая Рэня з Сопата. Вось бачыце, сказала яна, не глядзі, што я старая і тоўстая, а конкурс выйграла! Хаця сівыя валасы пафарбавала, але вярнуся дахаты міскай.

* * *

Мой муж кажа, што ўсе бабы дурныя, бо кожнай з іх здаецца, што яна — пуп свету.

А я вам кажу, што ўсё залежыць ад прамоцыі.

**Ада Чачуга**

# Айцец Георгій

Праваслаўны прыход святога Міхаіла Архістраціга ў Трасцянцы, што ў гміне Нарва, ужо больш за пяць гадоў узначальвае а. Георгій Ахрымюк. За сваю 5-гадовую службу бацюшка павянчаў толькі 5 пар, ахрысціў 11 маленькіх дзяцей і пахаваў аж 73 нябожчыкаў. Цяпер прыход налічвае 418 прыхаджан і няма надзеі, каб іх прыбывала. Калі я гутарыў з а. Георгіем, бацюшка моцна задумаўся, хвіліну памаўчаў, а потым кажа: „Я думаю, што ўжо ў 2020 годзе не будзе каму прыходзіць у царкву, бо і цяпер маладыя хлопцы, якім не пашанцавала знайсці сабе жонак, у царкву не ходзяць, а толькі ідуць у краму, якая ў будні і святочныя дні заўсёды адчынена”.

Бацюшка Георгій стараецца, каб царква прыгожа выглядала. Таксама стараецца і царкоўнае праўленне, якое ўзначальвае староста Міхал Тамашук і яго намеснік Васіль Унушынскі. На пачатку чэрвеня г.г. Васіль Унушынскі з а. Георгіем паехалі да ваяводскага рэстаўратара помнікаў у Беласток і там атрымалі дазвол на капітальны рамонт царквы. Плануецца перакрыць дах і адрамантаваць бакавыя купалы, якія ўжо хіляцца. Найважнейшымі ў гэтай справе з'яўляюцца грошы, а прыход, на жаль, бедны. Сярод прыхаджан пераважаюць пенсіянеры, якім цяжка звесці канцы з канцамі. Ваяводскі рэстаўратар таксама наракае на фінансавыя праблемы, а ў прыходзе няма такіх бізнесменаў, якія маглі б спансараваць рамонт.

Папярэднія старасты — Георгій Васілюк і Іван Міхальчук — таксама праводзілі рамонты царквы і пабудавалі прыхадскі дом побач царквы, у якім жыве цяпер бацюшка.

Сын бацюшкі, Павал, якому мінула два гады, заўсёды спаглядае на буслінае гняздо на электрычным слупе побач плябаніі і просіць бусла ўпрынесці яму сястрычку. Не хоча малеча быць адзінокім.

Я ўпэўнены, што айцец Георгій і царкоўная рада хутка правядуць капітальны рамонт царквы і наша вера і культура, якую нам пакінулі нашы дзяды і прадзеды, не загіне.

**Мікалай Лук'янюк**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг;*
*пачатак у 18 н-ры за 1996 год)*

І жыві-разжывайся, чалавеча, як сам хочаш. Адпаведныя ўлады не рэагавалі, і згаджаліся з кожным беззаконнем калгаснікаў у адносінах да нашай сям'і, каб толькі ўтрымаць калгас ад распаду. Трэба было цешыцца тым, што хаця кабылу нам аддалі.

І мы памаленьку радаваліся, чаго нельга сказаць пра нашу кабылу каштанку. Менавіта ёй найбольш не спадабалася новая сітуацыя і яна ніяк не хацела пагадзіцца з такой, на яе думку, відаць, моцна несправядлівай сітуацыяй. Яна так палюбіла калектыўную гаспадарку, што да канца сваіх дзён ніяк ужо не магла змірыцца з індывідуалкай. Як толькі вырвецца з хлява, бывала, так і прэ адразу залупіўшы хвост пад калгасную абору, бегае вакол яе, ржэ, у вокны заглядае і не дае злапаца нам, палітычна няўстойлівым. Такой ужо кампанейскай і з такой высокай камуністычнай свядомасцю была яна.

І канешне ж, з паводзін нашай кабылы былі задаволены і нашы калгаснікі, і бельскі павятовы камітэт партыі. Ім гэта быў яшчэ адзін доказ на тое, што калектыўная гаспадарка вышэй індывідуальнай. А для нас учынак нашай кабылы быў адной здрадай. Тым больш крыўдна было, што наша кабыла як ад гаспадара, так і сям'і крыўды не мела. Усе мы любілі яе, шанавалі і ганарыліся ёю, бо была яна сапраўды арыгінальнай кабылкай.

Была яна хуткая, як бліскавіца, добрага складу цела і разумная-разумная, халера. Мела таксама свой, кабылін, гонар і фантазію. Для яе біча не трэба было і нельга было ўжываць, бо разнясе — так адразу прывучыла нас. І ніколі яго не ўжывалі, і не мелі, але і ніколі кабылка не прыстала ў дарозе, не панесла і не разбіла воз і пасажыраў.

Звычайна была яна спакойная, лагодная, разважлівая, але бывалі і такія хвіліны, што паводзіла сябе зусім як анархістка.

Едучы, напрыклад, ноччу цёмнаю дарогай, яна заўсёды першая заўважала, што насустрач ці ззаду прэцца нейкая машына. Тады паварочвала галаву да гаспадара, седзячага на возе, і лагодна ржэла. Гэта мела значыць: мне страшнавата, падыдзі, гаспадар, бліжэй да мяне. І бацька паслушна злазіў з воза, падыходзіў да яе галавы, гаварыў з кабылай, і тады мог праязджаць ці пралятаць сам Люцыпар з кампаніяй, не тое, што нейкая машына, і яна была спакойная. Удзень такой патрэбы не было.

Толькі пераехаўшы кутлоўскі мост на рацэ Арлянцы, едучы з Бельска дадому, ніколі не забывала наша кабылка адразу затрымацца, відаць, добрую матэматычную памяць мела. Гэта мела значыць: хачу крышку перадыхнуць і напіцца халоднай рачной вадзічкі. І мой бацька зноў ушанаваў яе волю. Выпрагаў і зводзіў з высокага тут дарожнага насыпу ў рэчку. Кабыла піла, крыху паплюхалася і сама ішла ў аглоблі, а затым пачынала віхрам імчацца, каб надрабіць страчаны час.

Калі пад вечар ішлі забіраць яе з пасавога, яна заўсёды першая здалёк заўважала гаспадара, высока падымала галаву і весела падавала свой голас, які меў значыць: тут я, тут чакаю.

Калі ж здаралася спазніцца, была моцна незадаволеная, знерваваная, не скубла травічкі, толькі бегала на ўсю даўжыню ланцуга, ржэла і моцна нішчыла капытамі пасавое. Таму тата моцна трымаўся адпаведных тэрмінаў і ад усіх сямейнікаў патрабаваў гэтага.

Часамі находзілі аднак на яе і такія хвіліны, што раптоўна змянялася, пачынала пляваць на ўвесь гэты этыкет і „канвенансы” конска-чалавечых узаемаадносін і стрымгалоў ляцела ў шкоду. І напэўна дасканала ведала цану свайму ўчынку, бо тады ўжо не толькі не давалася злапацца, але не дапускала нават зблізіцца да сябе, а ўсё пёрла далей у шкоду. Праўда, здаралася ёй гэта не так ужо часта, і ў асноўным у час яе маладосці. Што ж, „молада-зелена” — любілі паўтараць старэйшыя людзі.

Усё гэта мы хутка ёй выбачалі і надалей яе шанавалі. Прыехаўшы, напрыклад, з дарогі ці вярнуўшыся з работы, бацька ніколі сам першы не ўпачаў есці ці адпачываць, пакуль не ўпарадкаваў кабылы. Мог ужо ноччу ў ложку прыпомніць, што яшчэ не напаіў яе і адразу бягом уставаў, адзяваўся і ішоў паіць, бо калі кабыла хаця крыху спацела ніколі не даваў адразу вады, каб не прастудзіць. „Коні вельмі утлыя”, — часта паўтараў. І канешне, крыўдна нам было, што так шанаваная намі кабыла лепей адчувала сябе ў калгасе, чым у нас...

*(працяг будзе)*

# Ветэран і грамадскі дзеяч

**Віталій Здравамыслаў нарадзіўся ў 1925 годзе ў Беластоку, у сям'і рабочага тэкстыльшчыка, у доме, дзе жыве і зараз. Бацька Віталія служыў у рускай арміі, а ён у 1944 годзе добраахвотнікам пайшоў служыць і ваяваць з фашызмам у Савецкую Армію. Пасля кароткіх практыкаванняў у запасным палку накіравалі яго ў франтавую разведку, дзе ён і закончыў баявы шлях.**

***— Ці можаце сказаць, колькі на Беласточчыне жыве былых чырвонаармейцаў, якія атрымалі медаль „50 год перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945" і медаль імя Георгія Жукава?***

— Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі па нашай прапанове медаль „50 гадоў Перамогі" прысвоіў 1 210 воінам СА, 41 савецкаму партызану і 177 жаўнерам Войска Польскага. Усе атрымалі. Медаль імя Жукава прапанавалі мы прысвоіць 1 272 ветэранам. Гэты лік узнагарод быў нам прызначаны і ўсе іх атрымалі. Найбольш урачысты момант адбыўся ў Гайнаўцы. На кожным сходзе прысутнічалі прадстаўнікі пасольства РФ з Варшавы. Яшчэ не ўсе атрымалі, а многія не дачакаліся...

***— Чаму, на Вашу думку, зараз наступіў такі падзел сярод ветэранаў?***

— У мінулых гадах арганізацыя ветэранаў гуртавала ўсіх удзельнікаў войнаў і падпольнага навучання і называлася Саюзам барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю (ZBoWiD). Там былі ветэраны вайны ў Іспаніі, абарончай вайны 1939 года, АЛ, ГЛ, АК, Узброеных Сіл на Захадзе, Чырвонай Арміі, Народнага Войска Польскага і іншыя.

Арганізацыя працавала грамадскім чынам і дбала пра ўсіх ветэранаў, аднолькава, аж пакуль салідарнікі не паставілі адных супраць другіх. Цяпер героямі і ветэранамі сталі толькі члены АК, НСЗ, абаронцы з 1939 года ды тыя, хто служыў у Войску Польскім на Захадзе.

***— Ці з Беласточчыны ў Чырвонай Арміі было больш палякаў ці грамадзян Польшчы іншай нацыянальнасці?***

— З Беласточчыны было найбольш беларусаў, якія ішлі ў Чырвоную Армію больш ахвотна і дабравольна хаця мабілізацыя ў армію аднолькава датычыла ўсіх, хто стаў грамадзянінам СССР па далучэнні зямель Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да Савецкага Саюза восенню 1939 года.

***— Ці ўсе ветэраны, каго Вы прапанавалі да вышэйназваных узнагарод, атрымалі іх? Пытаюся таму, бо чуў, што нібыта некаторыя адмовіліся іх прыняць.***

— Не толькі што ніхто не адмовіўся прыняць гэтыя ўзнагароды, але многія дапаміналіся, калі каго гмінныя гурткі прамінулі. У Гарадку знайшліся два ветэраны Савецкай Арміі, якія атрымалі ўзнагароды прысвоеныя ім у час вайны: „За давагу", „За Японію" і ордэн „Славы" III ступені. Былі гэта Эдуард Салавей і Ян Хлябіч.

***— Цяпер Беларусь і Украіна з'яўляюцца незалежнымі краінамі. Ці яны ўзнагароджваюць польскіх грамадзян, якія заслужыліся для Украіны і Беларусі ў час вайны?***

— Не, не ўзнагароджваюць. У справе ўзнагарод усіх заступае Расійская Федэрацыя.

***— У I Дывізіі ім. Тадэуша Касцюшкі служылі амаль выключна былыя вязні савецкіх турмаў і лагераў, так званыя „неблаганадёжные". Як думаеце, чаму гэтыя бадзягі, дайшоўшы з цяжкімі баямі да межаў Польшчы, не ўцяклі з войска і не далучылі да лясных груповак?***

— Іх жаўнерскі гонар не дазволіў ім здрадзіць саюзніку, з якім разам хацелі дабіваць фашызм пад камандаваннем ген. З. Берлінга. Яны даведаўшыся аб дзейнасці польскага падполля супраць Савецкай Арміі і спакойнага народа, самі гатовы былі з ім расправіцца, але спяшалі з фронтам. Іх нервавала і тое, што „лясныя" звалі іх „сталінскімі пахолкамі".



***— Які Ваш погляд, як франтавіка і грамадзяніна на тэму тых, якія асталіся ў падполлі і мардавалі мірных беларускіх сялян на Беласточчыне?***

— Іх нельга называць інакш, чым бандветамі. Мае франтавыя калегі, у тым ліку шмат сапраўдных жаўнераў АК, з гневам асудзілі жудасныя, проста бандыцка-здрадзецкія дзеянні на мірным народзе, які чакаў сваіх родных і блізкіх з фронту, з Нямеччыны, і з розных канцлагераў. Многія не дачакаліся, бо або іх тут выпалілі, або чаканых там вымардавалі. Наш лёс быў надта цяжкі, бо многія вёскі акаўцы папалілі, многія людзі пад пагрозай выехалі ў СССР. Але неяк перажылі, хто астаўся і пакуль яшчэ нацыя трывае.

**Гутарыў Васіль Петручук**

# Трэба, каб іх абакралі

Была другая палова студзеня. Надвор'е больш нагадвала прадвесне, чым зіму. Я і яшчэ восем асоб чакалі прыезду аўтобуса. У касе білетаў не прадавалі, бо не ведалі, ці аўтобус прыедзе. На шчасце прыехаў. Вадзіцель прадаў нам білеты.

Я села на першую лаўку. Каля мяне села маладая гаваркая жанчына. Гутарылі мы аб розных справах, а ўрэшце прыйшла чарга на сямейныя клопаты. Жанчына ўзялася расказваць:

„Ведаеце, з сям'ёй лепей не бачыцца. Вось сястра маёй мамы была з сям'ёй дваццаць чатыры гады ў Аўстраліі. Іх дом мая мама даглядала. Там жылі кватаранты. Мама брала ад іх за жыллё грошы і ўплачвала на ашчадную кніжку сястры.

Даглядала агарод, каб не зарос муравой. Садзіла там гародніну і кветкі.

За дваццаць чатыры гады побыту ў Аўстраліі яны ніколі не прыслалі ніякага падарка. Калі вярнуліся, два тыдні рабілі парадкі. Рамантавалі дом звонку і ўнутры. Работа ішла хутка, бо муж цёткі і сын ведаюць як што зрабіць і яшчэ нанялі двух добрых рабочых.

Нас да сябе не запрасілі, толькі пазванілі, што прыйдуць у суботу вечарам у госці. Мы падрыхтаваліся. Мама купіла пляменніку падарак. Яны той падарак узялі, а нам далі толькі па адной цукерцы... з Аўстраліі! Я спытала, чаму не прывезлі папрабаваць тамашніх шакаладак.

— Ой, як мы маглі прывезці такія дарагія рэчы! — выгукнула цётка. — Мы там бедна жылі, ашчаджалі, каб тут усё купіць.

Як яна да нас прыйдзе, дык зараз ад парога кажа: „Дай шклянку кавы і піражнае", а як я туды зайшла, то пачаставала самой гарбатай без піражнага і ўсё хвалілася сваім багаццем.

Я заўважыла, што цётка хацела б ад кагось рубля выцягнуць, а камусь капейкі шкадуе. Багацейка! Трэба, каб іх абакралі, то не падымалі б больш высока нос".

**Аўрора**

# З майго панадворка

У „Ніве" н-р 19 я прачытаў артыкул Кацярыны Аўсяйчук „Сон аб Беларусі". А мне Беларусь не сніцца. Я там проста быў і бачыў як выглядае ў рэальнасці. Прыйшлося пабываць у Гародні на провады зімы, як там называюць дзень 21 сакавіка. У парку ў Пышках сабралася шмат людзей, былі прамовы, спевы, было піва, гарэлка і вельмі вясёлая атмасфера. Я там не бачыў ніводнага бел-чырвона-белага сцяга і не пачуў ніводнага дрэннага слова ў адрас Лукашэнкі. Не заўважыў ніякай апазіцыі. Можа яе там увогуле няма. Шмат спявалі ўсялякіх песень, але тае „Прэзідэнт ідзі дамоў" я не пачуў.

Быў я таксама на каталіцкі Вялікдзень у касцёле, што пры Савецкай плошчы. Нічога супраць Лукашэнкі там таксама не гаварылі. Не пачуў я таксама нічога дрэннага і 1 Мая.

Чаму нам, беларусам у Польшчы, не падабаецца тое, што выбраў беларускі народ у сваёй айчыне. Мы не павінны соваць нос не ў свае справы. А нашы сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку і „Ніва", бяруць голас у справах, якія іх не павінны цікавіць. Кожны знае сваю праўду і кожны мае свае рацыі.

Нават генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку, выступаючы па радыё, выказаў сваё абурэнне зместам нашай прэсы.

**Дзядзька Захар**

# Мерседэс-стадола

У адзін ранак Франц з-пад Кузніцы знайшоў у сваёй стадоле „Мерседэс". У такой аграмаднай пуні ёсць шмат месца не на адзін такі аўтамабільчык — ано іх вязі. Паставілі яе дзед Іван з сынам сваім Жорам, Маськевічы — на ўсю гміну. Народ тады будаваўся, бо меў за што. Прынамсі, так яму здавалася. Толіка, званага ў ваколіцы Францам, дваццаць гадоў таму зманіў аптымізм старых і рашыў, кінуўшы цёплую пасадку ў складзе ў Беластоку, вярнуцца на гаспадарку. Было яму тады ўжо каля трыццаці; як казаў — сваё адшумеў, свету крыху пабачыў, а перспектывы вабілі. Што збудавана, то стаяць павінна. З таго ўсяго быў вялікі пшык, а мог быць яшчэ большы, як кажуць людзі, што нямала страцілі ў віхуры перамен.

Францам назвалі Толіка з-за яго пабыўкі ў Францыі. Тады яшчэ мала хто з нашых бываў на гнілым Захадзе. Тады і іхнія грошы моцна стаялі. Франц не быў бы „французам", калі б усе грошы ўваліў у гаспадарку — трэба ж крыху жыцця пакаштаваць, а не толькі згорбіцца над полем. А то пшык пасля быў бы яшчэ большы...

— Цяпер такіх пагаслых вулканаў шмат, — кажа паэтычна сусед Маськевічаў, Іван Грэсь. — Паглядзіце — проста месячны краявід, асабліва пасля спулдзельняў. А хто ўчапіўся, каб гаспадарыць, то далей цягне лямку. Франц быў папрацаваў, пазабаўляўся гаспадаркай дый кінуў, папрадаваў усё, што варушылася або далося з месца зварухнуцца. Дзеўкі не знайшоў калі быў багаты і харошы, то цяпер тым больш бабы не знойдзеш, калі голы ды лысы. Але, хоць ён крыху паліняў, то, як гляджу на Францыка нашага, то бачыцца мне ў ім казацкая фантазія. Ну, крыху шаленаваты такі.

— Папраўдзе нармальны чалавек такога дабра не пакінуў бы, калі ўжо дасталася яму ў рукі. Але дзе тут нармальнага знойдзеш, — шчэрыцца ў штучнабелай усмешцы „Дэнвэр", гаспадар някепскі, які цягне сваю „здыхляціну" за грошы, што прывёз з Амерыкі; сам, праўда, жонку страціў за той час, як жылы з сябе рваў у Штатах — пайшла за маладым хлопцам з-пад Замбрава. Робіць тую гаспадарку „Дэнвэр" крыху для гонару, што не такі ўжо апошні пан, а таксама і па інерцыі — што ж, рабіць трэба, а тут якасьці расце, калі пасеяў... — Бо чаго сядзець тут у нас. Сядзіць той, хто мусіць. Той, што месца сабе не знайшоў. А каб так, як Франц рабіў, сядзець, вочы вырачыўшы на пустыя бункеры, то трэба быць або дурнем, або мазахістам. Але каб са стадолы зрабіць гараж — то ідэя някепская. Або і ангар для верталётаў, бо ля граніцы зарабіць можна — пэўна там, пад Агароднікамі, ля Літвы, не адзін такі мастак зарабіць на кантрабандзе знойшоўся.

Франц такіх ідэй не меў, але пашанцавала. Сам не шукаў, ды знайшлі яго самі. Эгэ, і як знайшлі! Ніхто нават не пытаўся, ці ў стадолу можна заехаць, тым больш „трэфнай" машынай. Не, не зусім так. „Мерседэс" быў сапраўдны, і сапраўдныя ў яго былі паперы. Не менш сапраўдны, чым Францава гаспадарка.

Спачатку той „Мерседэс" хіба ці не дваіўся ў Францавых вачах. Ды не, учора не піў аж так шмат. Яшчэ не вельмі ён цяміў, калі паявіўся гаспадар аўтамабіля з прапанаваў уласніку мураванай прасторнай стадолы. Будзе стаянка — будзе грош амаль дармовы. Як то гаворыцца — як у руку даў. Самаходы будуць на сухім стаяць. Франц толькі крыху нагляне, каб што не тое было, пакуль іх не забяруць. Грошы могуць даць нават наперад, калі што. Або калі машынай адплаціць. А калі хто ўбачыць? Мала то то сюды, то туды ездзіць па Сакольшчыне цудакоў з замежнай рэгістрацыяй? Шукае Еўропа „зялёных лёгкіх", то мы пашукаем іхніх „зялёных"!

— А хто ж данёс, калі не нашы! — кажа пані Ч. Б. з Кузніцы. — Вядома, чужая чужая ўжо ў вочы коле, асабліва калі грошы за нешта ідуць. Але мушу пахваліць нашу паліцыю і пагранічнікаў за... інтуіцыю. Бо паверылі такому чалавеку, які сам ужо хіба не верыць у тое, што гаворыць. З яго „даносаў" можна кнігу напісаць, не горшую чым гісторыі барона Мюнхгаўзена, пра ўстановы і арганізацыі існуючыя і не, людзей на пастах і простых. Ніхто ўжо не хоча іх правяраць, бо бяруць яго за „псіхічнага". Але гаражом Анатоля Маськевіча зацікавіліся. І пацэлілі ў дзесятку.

Анатоль Маськевіч, званы Францам, не можа апраўдацца, што „Мерседэсы" знайшоў выпадкова. Толькі першы яму так трапіўся.

**Міра Лукша**

*Прозвішчы герояў зменены.*

# Позірк у мінулае

**26 чэрвеня**

363 г. — памёр Флавій Клаўдый Юліян, апошні рымскі язычніцкі імператар. Народжаны ў 331 г., пляменнік імператара Канстанціна Вялікага, рана асірацеў у выніку хрысціянскіх рэлігійных ганенняў. У дзяцінстве быў ён ахрышчаны і, паколькі пазней, уцякаючы ад ганенняў, падаўся ў Кападокію, дзе адрокся ад гэтай веры і прыняў традыцыйны паганскі культ, хрысціяне назвалі яго Адступнікам. У 355 г. быў ён назначаны камандуючым рымскай арміяй у Галіі, дзе тры гады змагаўся супраць варвараў, адкідаючы іх за Рэйн. У 360 г. ягоныя войскі аб'явілі яго імператарам, што прадвяшчала вайну з пануючым тады Канстанцінам II, якую прадухіліла смерць апошняга ў 361 г. Юліян падаўся ў Канстанцінопаль і Антыёхію, вяртаючы там ідалапакланенне старым грэчаска-рымскім багам, але паводле хрысціянскага абраду. Падчас вайны з Персіяй Юліян быў смяротна паранены і ўміраючы сказаў: „Перамог Ты мяне, Галілеянін".

**27 чэрвеня**

444 г. — памёр Кірыла Александрыйскі, багаслоў, адзін з айцоў Царквы, вядомы сваёй нецярпімасцю да нестарыянства — царкоўнай ерасі, паводле якой Хрыстос быў падвойнай асобай: боскай і чалавечай. Народжаны ў 376 г. у Александрыі, там атрымаў адукацыю і ў 412 г. быў абраны патрыярхам. З таго часу ён стаў непрымірымым ворагам усяго, што не адпавядала хрысціянскай абшчыне горада. Ён грабіў і закрываў храмы ерэтычных сектаў, падбухторваў супраць яўрэяў, разбураючы іх дамы і нарэшце выганяючы з горада. Выдатную ў той час александрыйскую вучоную Іпатыю, слаўную сваёю не толькі красою, але і выдатнымі ведамі, асабліва ў галіне філасофіі і астраноміі (яе вынаходствамі лічацца астралябія і планісфера), якая заступілася за яўрэяў, прыхільнікі Кірылы замучылі ў 415 г., здзіраючы ракавінамі мышцы з касцей. Кірыла быў адным з галоўных ініцыятараў склікання Эфескага сабора ў 431 г., які асудзіў нестарыянства. Напісаў ён таксама многа багаслоўскіх твораў.

**28 чэрвеня**

548 г. — памерла Феадора, візантыйская імператрыца, жонка Юсціяніна Вялікага. Юсціяніян, усыноўлены сваім дзядзькам, імператарам Юсцінам, пазнаў Феадору ў 525 г., калі быў ужо амаль пэўным наследнікам візантыйскага трона. Феадора была актрысай і тадышні закон забараняў жаніцьбу высокіх чыноў з актрысамі, якіх тады лічылі жанчынамі лёгкіх паводзін. Юсціяніян дабіўся адмены таго закона і ў 527 г. ажаніўся. Феадора аказвала вялікі ўплыў на ўсе дзяржаўныя справы, а людзі, якія пра нешта хадайнічалі ў сталіцы, перш чым у імператара дабіваліся аўдыенцыі ў яго жонкі. Характарызавала яе рашучасць, якая бадай найбольш праявілася падчас паўстання Ніка ў 532 г. Калі супраць Юсціяніна збунтавалася амаль уся сталіца і ён схіляўся адрачыся ад трона, Феадора заявіла, што носячыя карону не павінны перажыць яе страты; муж пасаромеўся яе і перайшоў у пераможнае наступленне.

**(Ш)**

Упершыню ў Беластоку

# Салон выдаўцоў — Беластоцкая бяседа з кніжкай

У днях 20-22 чэрвеня г.г. першы раз у Беластоку арганізуецца вялікая выстаўка-продаж кніжных навін, выдадзеных найбольш вядомымі выдавецтвамі Польшчы. Мэта гэтага мерапрыемства — супрацьставіцца камерцыялізацыі рынку і паказаць сапраўды добрую, амбітную кніжку, пазнаёміць беластоцкага чытача з прадукцыяй перадавых выдавецтваў.

У прэзентацыі возьмуць удзел 23 выдавецтвы, такія як „Асалінэум", „Аркады", Навуковае выдавецтва ПВН, ПІВ (Дзяржаўны выдавецкі інстытут) і іншыя літаратурныя, асветныя і навукова-тэхнічныя выдавецтвы.

Сярод іх свае выданні пакажуць беластоцкі „Лук" (галоўны арганізатар Салона выдаўцоў), КАВ (Краёвае выдавецкае агенцтва) і выдавецтва „Ортдрук", якое друкуе нашу газету і беларускія кніжкі, што выдаюцца Праграмнай радай „Нівы".

Беластоцкая бяседа з кніжкай праходзіць у холе будынка Ваяводскай управы і на першым паверсе, дзе месціцца каля трох тысяч загалоўкаў. Урачыстае адкрыццё — 20 чэрвеня 1997 г., а гадзіне 12-ай. Адкрыццё спалучана з уручэннем узнагароды беластоцкага ваяводы — залатога грыфа Браніцкіх пераможцу выдавецкага конкурсу на найлепшае выданне апошняга часу, а таксама ўзнагароды журналістаў ды пераможцам у розных тэматычных галінах.

На выстаўцы можна закупіць (па значна ніжэйшых цэнах, чым у кнігарнях) навейшыя кніжныя пазіцыі, сярод якіх раім звярнуць увагу на шэдэўры рускай літаратуры, выдадзеныя „Лукам" па-польску, і выданні „Ортдруку" па-беларуску. Прадугледжаны аўтарскія сустрэчы, падпісванне кніжак аўтарамі.

Выстаўка адкрыта: 20 чэрвеня — $11^{00}$-$18^{00}$, 21 чэрвеня — $10^{00}$-$18^{00}$, 22 чэрвеня — $10^{00}$-$16^{00}$.

**(ач)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прабач, што турбую цябе сваім сном. Ты ж на падобны даваў ужо мне адказ. Але гэты сон крыху іншы. Снілася мне пасцель. Быццам у вялікім пакоі разасланая яна на тапчане, у малым пакоі — тое ж, ды яшчэ побач вялікага пакоя нейкі пакой (у сапраўднасці гэтага пакоя ў нас няма) жанчыны, якая жыве ў блёку пад намі. І таксама на тапчане разасланая пасцель, ды бачу, а навалачкі на падушкі такія, якія і я маю і ў даны момант карыстаюся імі.

У маёй хаце знаходзяцца брат з братавай. І яны леглі спаць у пасцель у малым пакоі. Братавая хутка ўстала, а брат спаў далей.

І яшчэ дадам: усе пасцелі былі нясвежыя, трэба ўжо было б іх змяніць, ды дзверы ва ўсіх пакоях былі адчыненыя.

Нядобры, бадай, гэты сон. А што ты думаеш на гэту тэму, Астроне?

**Вера**

Вера, сапраўды, пра пасцель мне даводзілася пісаць ужо не адзін раз. Аднак жа твой сон мяне надзвычай зацікавіў.

Так, пасцель у сне не прадвяшчае нічога добрага, а найчасцей такія сны папярэджваюць аб нейкай хваробе. Ва ўсіх тваіх пакоях, а нават у суседкі, што жыве пад вамі (у сне яе пакой знаходзіўся ў вашай кватэры) таксама разасланая пасцель, а на дадатак з навалачкамі, такімі ж, як твае. А да таго ж яшчэ ў цябе спалі брат з братавай.

Я думаю, што тут будзе мо не столькі хвароба, колькі нейкая залежнасць ад іншых. Будуць нейкія праблемы, брудныя справы, аб чым сведчыць нясвежая бялізна, якою былі засланы ўсе пасцелі.

Хачу на заканчэнне цябе пацешыць. Адчыненыя дзверы заўсёды абазначаюць поспех. Мо неяк вылезеш з гэтых брудаў.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. дакучае зімою, 4. храніст, 6. даручэнне на выкананне працы, 7. рамень для змагання з грузам, 9. марка беларускіх грузавікоў, 11. невялікае дрэва з чорнымі неядомымі ягадамі, 12. арэшнікавы зараснік, 13. усходні ўладар, 15. востраканечнае геаметрычнае цела, 17. горад на Украіне, 18. Францішак, дзеяч беларускага выдавецкага і тэатральнага руху (1883—1944), 19. вяроўка з пятлёю.

**Вертыкальна:** 1. агульны стол у манастыры, 2. вяровачка для завязак, 3. спосаб кансервацыі прадуктаў, 4. і 5. любімец беларусаў, 6. клятва-адмова, 8. савецкі і азербайджанскі палітык, 9. рух рукою, 10. сябра Міцкевіча, 14. рака ў Паўднёвай Амерыцы, 16. не будзень, 17. сусед Ізраіля. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 18 н-ра:**

**Гарызантальна:** скарб, скрыпачка, банка, кудла, лыч, вяселле, алфавіт, МТС, карэц, дзела, нябожчыца, каала.

**Вертыкальна:** Карпаты, сэрца, бычок, Санхедрын, Андрамеда, бляск, Аліна, Лем, час, Туджман, цыбук, Дрыса.

Узнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

# Парнасік

## Лета і сенакос

Кончыўся май і распачалося лета,
Хаця зямліца не вельмі нагрэта,
Бо вясна была халодная і мо дзіўная,
Аднак каштоўная, багатая і мірная.
Распачаліся працы пры сенакосе,
На лузе стройна ляжаць пакосы.
Ратацыйная касілка траву скасіла
І нашы цяжкія працы ўміг скараціла.
Патрэбная цяпер сонечная пагода
І тады пойдзе пры сенакосе работа;
Будзем сена сушыць
І з прыродай бліжэй дружыць.
Не забудзем, як граблі завуцца,
І мо нашы найлепшыя пачуцці адазвуцца;
Таксама спатрэбяцца вілы...
Любі гэты час і работу, сябра мілы.
Кладзем віламі сена на фуру
І баімся дажджу і буры.
Каб сухое, араматнае сена звезці,
Не баімся на сабе крыж пакуты несці.
Нават у нядзельку многія працуюць ля сена
І маюць вывад: не рубаем палена,
І што гэта не грэх варочаць, сушыць
І трактарам да клуні гатовае вазіць.
Што ж, кожны мае свой розум, высновы,
І гэты прыклад не новы.
Але і хто ў нядзелю не працаваў,
Бог яму блаславенне і розум даваў.
Бо і яго сена не пагніло, не прапала
І на лузе, як сірата, не ляжала.
Было звезена ў будзень у клуню як трэба
І Бог сваім верным даваў пагоду з неба.
Сёння машыны выручаюць многіх пры сенакосе,
Але не на кожнай дарозе.
Машына пагоды не дасць,
А людзі прывыклі на сябе і Бога зславаць.
Цэняць тое, што найменш для душы карыснае
І нашы паводзіны часта дзіўныя.
А чалавеку трэба адно: усіх любіць
І з пашанай для Бога жыць.

**Мікалай Панфілюк**

## Трыбунал

Трыбунал у дзяржаве
Не мае што рабіці
Ды абортамі заняўся
Замест лодараў судзіці.
За нашых кабетак
Цоль усё вырашае —
Відаць, свае жонкі
Старшыня не мае.
Дайце голас кабетам,
Каб яны сказалі,
Што з абортамі рабіці
І каб тое ўсе зналі.
Тады будзе праўда,
Няма што казаці,
Калі нашы кабеты
Самі будуць вырашаці.
Трыбунал, займіся,
Глянь ты на аферы,
Як усё раскрадаюць
Бізнесмены-халеры.
Вазьміся за суполкі,
Што яны нарабілі.
Афераў алкагольных
Вы не разлічылі.

**Мікалай Лук'янюк**


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палюцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A. I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

### Дагадзіў

Хацеў раз Нікіфар
Жонцы дагадзіці,
Пайшоў ён у краму
Шакалад купіці.
Але ўжо ў краме
Ён пра ўсё забыўся
Ды з Яськам-гультаём
Піва нажлукціўся.
Выпілі па першым,
Узялі па другім,
Потым чарку заказалі
У галовах круціліся кругі.
Так Нікіфар бедны
Цэлы дзень патраціў.
З Яськам грошы прагуляў
Ды дзянёк пралайдачыў.
Як прыйшоў дахаты,
То пачаў спяваці.
Паваліўся на канапу,
Давай далей спаці.
Жонка маладая
Не магла стрываці,
Трэба ўжо кароў даіць
Ды свіней дагладаці.
Яна стала на калені
І давай прасіці:
„Устань, Нікіфар дарагі,
Ідзі кароў даіці”.
Нікіфар раззлаваўся
І пачаў крычаці:
„Уцякай, халера, з хаты,
Не даеш мне спаці”.
Калі жонка адышла,
Нікіфар распіўся
Гаспадарку не глядзеў,
П'яніцам зрабіўся.

**Мікалай Лук'янюк**

### Прадвесніку

Калі чалавек розумам выбягае
Сваім у будучыню, час апераджае,
Цяперашняе бічом яго сцябае.
І горкі лёс такі яго чакае,
Што яго дзівам называюць
Ці знаць не знаюць.

**Язэп Карпюк**

**Гумар з барадою**

### Ласун

— Еў бы ты капусту?
— Абы тлусту.
— А гарох?
— Ох, ох, ох!
— Піў бы піва?
— О то дзіва.
— А жаніўся б?
— Хоць зараз.
— А пацеры ўмееш?
— Не лезь мне ў вочы.

*(„Наша ніва”, 1909 год)*

# Ніўка

*Малюнак М. Шычко*




## Чужак

На нашым аддзеле з'явіўся новы супрацоўнік. Сціплы, маўклівы, ён адразу ж паглыбіўся ў вывучэнне разлікаў, якія даў яму загадчык.

Мы моўчкі назіралі гадзіну-другую, як ён засяроджана робіць нейкія паметкі на аркушах паперы, акуратна складвае іх на краю стала. Не вытрымалі.

— А што вы ўмееце, Пётр Іванавіч, — першым парушыў маўчанне Здаравенка.

— Я інжынер, — не падымаючы галавы, адказаў навічок.

— Гэта мы ведаем. А ваша хобі? У шахматы гуляеце?

— На жаль...

— Не бяда, — падаў голас Ганюк. — А як з „марскім боем”?

— Не захапляюся.

— Анекдоты свежанькія прывезлі?

— Не.

— М-да, — чмякнуў губамі Віўдзік. — Дык, можа, разгадваеце красвордцы?..

— Тут я пас.

— Арыгінал! — выгукнуў Кулька. Мабыць, вышываеце крыжыкам?

— Не спрабаваў.

— А ў падкіднога? — спытаў Скок.

— Таксама не.

— Вось гэта кадр! — пакруціў галавой Зязюлькін. — Як жа вы думаеце прыжыцца ў калектыве?

— Ды я...

— Канчайце балбатню! — не вытрымаў загадчык. — Некаму ж і працаваць трэба.

**Міканор Дубіцкі**

*З украінскай пераклаў Валеры Бабей*

# „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Гутараць дзве сяброўкі:

— Мой муж будзе багаты, мудры, стройны і апякунчы...

— Разумею, што намерваешся мець чатырох мужоў.

* * *

— Ці ведаеш, што такое самастойнасць?

— Ведаю; будзе ўжо год, як я замужам.

* * *

— Мой муж з'яўляецца выдатным знаўцам кулінарыі.

— То я цяпер разумею, чаму ён не сталуецца дома.

* * *

— Уяві сабе, што Зойка навучыла свайго мужа есці з рукі.

— Што ты скажаш! Як яна сумела?

— Бо не любіць змываць посуд.

* * *

Гутараць полька з беларускаю:

— Паляк, — кажа першая, — здабывае жанчыну далікатна: спярша цалуе пальцы, пасля руку, плячо, карак...

— Мой Божа! — уздыхае беларуска, — за той час наш ужо вяртаецца з паслявеснага падарожжа.

* * *

— У апошні час я даведалася многа цікавага пра свайго мужа.

— А што: гаворыць праз сон?

— Не, не гаворыць, толькі ўсміхаецца, падлюга.

* * *

Муж да жонкі:

— Снілася мне сёння, што хтосці цябе сёння цалаваў і прыціскаў. Як гэта вытлумачыць?

— Што спіш багатырскім сном.

* * *

Яна злуецца на яго, што кожны вечар падглядае яе праз бінокль са свайго вакна, што насупраць. Ажно аднаго дня тэлефануе яму:

— Добры дзень! Ці не помніш, куды я ўчора кінула свой бюстгальтар?

* * *

Маці да сына:

— Знаёмся: бусел прынёс табе новага татку.

# Сардэчныя тайны

Сэрцайка! Сама не ведаю, што рабіць. Са сваім хлопцам я хаджу ўжо пяць гадоў. Мне цяпер 24 гады, я ўжо даўно працую, а ён яшчэ студэнт.

Не зразумей мяне неўласціва: я не наракаю, што ён жыве з бацькамі і не мае сваіх грошай. Мне яго грошы непатрэбныя. У мяне ж уласная фірма, якая дае някепскія даходы. Відома, бацькі мне дапамаглі яе паставіць на ногі, але я працую вельмі цяжка.

Маёй найбольшай марай з'яўляецца вялікае, сучаснае прадпрыемства — на ўвесь Беласток прынамсі! Каб давала яно вялікі даход, ды каб у сярэдзіне ўсё было прыгожа, як цацка. Каб працавала яно навейшымі метадамі і было там суперсучаснае абсталяванне. Дзеля гэтага я езджу на розныя курсы, шмат чытаю і вучуся.

У маёй працы мне дапамагаюць не толькі бацькі, але і мой хлопец. Ён гатоў у мяне рабіць найгоршую работу, вядома, калі не мае заняткаў. А ўсё дзеля таго, каб пабыць са мною.

А ў мяне часу для яго ўсё менш. Няма сэнсу транжырыць час на каханне! Што зраблю замоладу, тое будзе маё. А на каханне часу яшчэ хопіць. Мой хлопец з такой маёй паставы незадаволены.

А я ж хачу нешта ў жыцці зрабіць. Усё памаленьку разбудоўваю сваю фірму, дакупляю розныя рэчы. Многія лічаць, што не ў гэтым сэнс і не з гэтага робіцца грошы, але мне здаецца, што тут эстэтыка не без значэння. Кажуць, што найлепшы бізнес сёння робіцца на піцы ці на фрытках, а не на шыкарным абсталяванні. Рух у інтарэсе павінен быць!

Мой хлопец на гэту маю мадэрнізацыю фірмы нічога не гаворыць, але што б меў ён гаварыць, калі гэта ўсё робіцца за мае грошы. Яму больш балюча, што я ў фірме ад восьмай да восьмай, а калі ўжо скончу, дык і хлопец не ў галаве.

Прыходзіць ён да мяне на працу штодзённа. Часамі вечарам выйдзем у нейкую кавярню або ідзем да мяне дахаты. Часамі гуляем на чыймсьці вяселлі ці хрысцінах, але выехаць кудысьці разам, каб адпачыць — гэта ўжо нам не ўдаецца.

Мама мая пачынае непакоіцца, што вось ужо пяць гадоў мы ходзім, а яшчэ не пажаніліся і ўнукаў ёй няма. А я ёй тлумачу, што сям'я адарве мяне ад фірмы, а я ж мушу пра яе дбаць. На Захадзе ніхто так рана сям'ёй не абзаводзіцца. Спачатку людзі глядзяць, каб зарабіць на дом і ўсё ў доме, здабываюць сабе пазіцыю на працы, а толькі тады жэняцца і выхоўваюць дзяцей. Ад сарака гадоў да шасцідзесяці бадай можна дзяцей выхаваць, га?

Але скажу табе па шчырасці, што гэта праблема мяне не настолькі нуртуе, колькі мае адносіны з маім хлопцам. Пяць гадоў гэта нямала. Баюся, што нешта ў мяне ўнутры перагарэла за гэты час. Мо, як ты калісь пісала, мы ўжо „перахадзілі”?

Дальбог, нашыя сустрэчы не даюць мне ўжо такой радасці, як калісьці. Сумна. Мне ў маёй фірме весялей.

Што рабіць? Памяняць хлопца? Але ж, па-першае, я яго кахаю; па-другое: што скажуць бацькі, калі яны ўжо прывыклі да яго, як да сына, а мы перад бацькамі ні з чым не таіліся; а па-трэцяе, ці гэта наогул нешта зменіць? Мне ж і так мая фірмачка даражэйшая за ўсё. З ёю звязаны мае мары, мае жыццёвыя планы. А які хлопец — ці ж гэта важна?.. Мо няхай застанецца ўсё па-старому, як ты думаеш?

**Марта**

Даражэнькая Марта! Як вынікае з твайго пісьма, фірма стала грабаром тваіх пачуццяў. У жыцці трэба ўсё рабіць памяркоўна і ў свой час. Што працы — то працы, што хлопцу — то хлопцу. Няпраўда, што кожная ў сорак пачне радзіць дзяцей і паспее іх выхаваць. Іншая нават ужо і зацяжарыць не патрапіць.

Я думаю, што ты якраз „перахадзіла” са сваім хлопцам. Ведаю пару, якая „хадзіла” сем гадоў, а як пажаніліся, дык пражылі разам усяго паўгода.

Проста тваё каханне прайшло. Ты кахаеш яго толькі на словах. Калі табе сумна з хлопцам, значыць, гэта не тое. З каханнем так бывае: паяўляецца і гасне.

Думаю, што ты яшчэ сустрэнеш такога хлопца, жаданне быць з якім не заслоніць ніякая фірма. Аднак жа, пакуль будзе блытаецца ў цябе пад нагамі гэты хлопец, будзе гэта цяжкая справа.

**Сэрцайка**